Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 49 (4849) 11 снежня 2015 г.



# Чараўніцтва і дэмакратызм маладога тэатра

**XII Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар. БДУ 2015» прайшоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Тэатральныя пастаноўкі розных студэнцкіх калектываў былі прадстаўлены на сцэнічных пляцоўках сталіцы з 30 лістапада па 5 снежня.**

«Тэатральны куфар» — адзіны ў Беларусі Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў, адзін з найбольш буйных міжкультурных праектаў Рэспублікі Беларусь, а таксама ўнікальная камунікацыйная пляцоўка, што аб'ядноўвае актыўную таленавітую моладзь з усяго свету. Гісторыя фестывалю пачалася яшчэ ў 2004 годзе. Тады ў ім узялі ўдзел адзінаццаць тэатраў з чатырох краін свету. У мінулым годзе ў Мінск прыехалі ўжо дзевятнаццаць студэнцкіх тэатраў з пятнаццаці краін. Але гран-пры атрымала беларуская пастаноўка «Вій».

На адкрыцці фестывалю рэктар БДУ Сяргей Абламейка павіншаваў прысутных з пачаткам у Беларусі мастацка-тэатральнага свята і падзякаваў арганізатарам за магчымасць атрымаць асалоду ад прагляду розных па жанрах і канцэпцыях пастановак.

У адным тыдні арганізатары паспрабавалі злучыць паказ спектакляў, майстар-класы, семінары і тэматычныя сустрэчы. Сёлета ўдзельнікамі «Тэатральнага куфра» сталі студэнцкія калектывы з Беларусі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Грузіі, Ірана, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны і Эстоніі. Акрамя смелых эксперыментаў, увазе гледачоў былі прадстаўлены пастаноўкі на самую розную тэматыку: ад тэатральных адаптацый класікі беларускай літаратуры да матываў «Гамлета» Шэкспіра, «Вішнёвага сада» Чэхава. Старшынёй журы стаў доктар мастацтвазнаўства, тэатразнаўца, крытык Мака Васадзэ (Грузія, г. Тбілісі).


*Сцэна са спектакля «Вій».*

**Чытайце на стар. 8**

# Свая кніга



Раніца. Метро. Людзі чытаюць. Яны не зніклі зусім, хоць нейкі час таму было такое хваляванне. Чытач як з'ява разумнага свету атрымаў дадатковыя магчымасці любіць слова і кнігі, праз якія яно да нас прыходзіць. Прыходзіць рознымі шляхамі. Старонкі зачытаных кніг вабяць цеплынёй не аднаго пакалення чытачоў. Водар новай кнігі заўсёды інтрыгуе: што там, у гэтых пакуль склееных старонках ёсць пра свет, пра нас, пра асобнага чалавека. Ці толькі пра цябе… Браць з сабой хочацца толькі «сваю» кнігу, што кладзецца на настрой, на адчуванне рэчаіснасці — яна не абцяжарвае. Тады ловіш кожнае імгненне, каб адкрыць і чытаць, перажываць за герояў ці адчуваць у гэты момант адзінства з імі і пульсацыю ўласнага жыцця. Кніга не абцяжарвае фізічна, калі прыходзіць да нас праз сучасныя прылады, — тады ты наогул можаш насіць з сабой бібліятэку штодня, ёсць акцыі, якія гэтаму спрыяюць. Стварыць сваю мабільную бібліятэку не складана, але ёсць выбар, якія аўтары будуць ісці разам з табой па жыцці штодня, будуць дапамагаць «упісвацца» ў свет. Сярод такіх аўтараў, хто дапамагае ў гэтым, ёсць беларускія. Літаратура, у якой ёсць усё — ад класікаў (зразумелі свой народ і дапамагалі яму арыентавацца ў сусветнай прасторы) да сучасных аўтараў, што ўглядаюцца ў чалавека, імкнучыся зразумець, што з ім адбываецца сёння. Беларуская літаратура — гэта багаты «кніжны свет», дзе кожны можа адкрыць для сябе той твор, які захочацца насіць з сабой — у сэрцы, у прыладзе ці ў друкаваным варыянце. Каб чытаць пра сябе, чытаць сваё.

**Працяг тэмы: «Кніжны свет»**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне народнаму артысту Расіі Міхаілу Турэцкаму, павіншаваўшы яго і салістаў арт-групы з юбілеем. «Сардэчна вітаю вас на беларускай зямлі і віншую з 25-годдзем з дня заснавання калектыву. Вось ужо чвэрць стагоддзя вы прадстаўляеце вялікай колькасці аматараў па ўсім свеце магчымасць акунуцца ў непаўторны свет высокага эстраднага мастацтва. Вялікая разнастайнасць твораў, што выконваюцца, ад лепшых узораў рускай і замежнай класікі да сучасных кампазіцый, дапамагае вам знайсці дарогу да сэрца кожнага слухача», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Беларускія народныя ўмельцы падзяліліся сакрэтамі рамяства з туркменскімі майстрамі на выстаўцы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая праходзіць у Ашхабадзе ў Дні культуры Беларусі ў Туркменістане. На выстаўцы «Беларускі гасцінец», якая размясцілася ў Музеі выяўленчых мастацтваў Туркменістана, прадстаўлена больш як 260 вырабаў айчынных майстроў: вышыўка, саломапляценне, шапавальства, лозапляценне і інш. У Туркменістане вельмі развітыя традыцыі народных промыслаў, папулярна ткацтва, выраб упрыгажэнняў. Асабліва зацікавіў наведвальнікаў выстаўкі беларускі нацыянальны касцюм.

✔ У Нацыянальным гістарычным музеі прэзентаваны перасовачны выставачны праект «Беларусь і беларусы», які расказвае пра асноўныя этапы гістарычнага развіцця краіны, дае кароткую характарыстыку культурным дасягненням, прадстаўляе беларускую нацыю як неад'емную частку сусветнай супольнасці, дапамагае зразумець, што такое Беларусь і хто такія беларусы.

✔ Беларускі мультфільм «Песня жаўрука» ўзнагароджаны на II Міжнародным фестывалі дзіцяча-юнацкага кіно «Нуль плюс», які прайшоў у Цюмені і Табольску (Расія). Дыплом «За пошукі свайго месца ў свеце» прысуджаны анімацыйнаму фільму Таццяны Кубліцкай. Усяго ў конкурсную праграму фестывалю ўвайшлі 174 работы з 29 краін, якія, згодна з дэвізам фестывалю, перадаюць вобразы дабра і прыгажосці, садзейнічаюць фарміраванню стваральнага светапогляду дзяцей і маладых людзей, развіццю іх індывідуальнасці.

✔ Беларус Аляксандр Рославец стаў пераможцам VII Міжнароднага конкурсу оперных спевакоў «Санкт-Пецярбург» і ўдастоены першай прэміі. Конкурс, які праводзіцца па ініцыятыве выдатнай спявачкі, ганаровага грамадзяніна Санкт-Пецярбурга, народнай артысткі СССР, прафесара СПбДК імя М. А. Рымскага-Корсакава Ірыны Багачовай, — адна з самых значных падзей у культурным жыцці Пецярбурга.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15049

## Дайджэст

• Уладзімір Жалезнікаў, аўтар знакамітай аповесці «Пудзіла», сышоў з жыцця, маючы 91 год. Саюз кінематаграфістаў робіць захады для таго, каб пісьменніка пахавалі на Траекураўскіх могілках. Уладзімір Жалезнікаў нарадзіўся ў Віцебску ў 1925 годзе, у 1945-м пераехаў у Маскву. У 1957 годзе скончыў Літаратурны інстытут імя Горкага, доўгі час працаваў у часопісе «Мурзілка». Кнігі Уладзіміра Жалезнікава збольшага прысвечаныя праблемам сталення, дзяцінства, юнацтва. Перакладзеныя на многія мовы свету, яго творы сталі класікай рускай літаратуры і ўваходзяць у школьную праграму.

• Карпарацыя *Microsoft* цяпер займаецца выдавецкай дзейнасцю. Хутка яна выпусціць на кніжны рынак зборнік навукова-фантастычных твораў пад назвай «Бачанне будучыні». Аўтары кнігі — пісьменнікі-фантасты, якія атрымлівалі прэміі ў сваёй галіне: Эн Лекі, Дэвід Брын, Роберт Соер і інш. Пры гэтым *Microsoft* стварыла сапраўды фантастычныя ўмовы працы для аўтараў, дазволіўшы карыстацца любымі рэсурсамі кампаніі «ў пошуках натхнення». Кнігу можна будзе спампаваць у інтэрнэце.

• Кнігарня «Галіяфы» аднавіла дзейнасць. Цяпер яна месціцца ў Траецкім прадмесці. Дырэктар аднайменнага выдавецтва Зміцер Вішнёў выказвае спадзеў, што кнігарня стане культурнай пляцоўкай, дзе можна будзе не толькі набыць якасную беларускамоўную літаратуру, але і наведаць прэзентацыі, выстаўкі сучасных мастакоў і пад.

• У Германіі будзе перавыдадзеная кніга Адольфа Гітлера «Майн Кампф». Яна мусіць з'явіцца ў кнігарнях краіны ўжо ў студзені 2016 года. Наклад складзе 4 тысячы асобнікаў. Уласна перавыданнем займецца Інстытут сучаснай гісторыі ў Мюнхене. Кніга будзе змяшчаць таксама каля 3,5 тысячы каментарыяў экспертаў. Разам з тым адзначаецца, што доступ да кнігі будзе абмежаваны, каб пазбегнуць усплеску неанацысцкіх настрояў у грамадстве. Таксама прынята рашэнне забараніць распаўсюджанне кнігі па заканчэнні тэрміну аўтарскіх правоў, што належаць ураду Баварыі. Тэрмін сыходзіць напрыканцы гэтага года.

• Выстаўка «Кніга ўсіх часоў», прысвечаная раману «Дасціпны ідальга Дон Кіхот Ламанчскі» іспанскага пісьменніка Мігеля дэ Сервантэса Сааведры, адкрылася ў Блакітнай зале Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Тут прадстаўлены больш як 300 выданняў з фонду бібліятэкі, у тым ліку першае выданне рамана 1605 года і іспанскія выданні «Дона Кіхота» 1617 і 1655 гадоў. Раман, які задумваўся як пародыя на рыцарскі, у 2002 годзе быў названы Нобелеўскім інстытутам лепшым у сусветнай літаратуры.

• Мабільны аператар МТС ператварыў чатыры вагоны мінскага метро ў кніжныя. Першыя вагоны з'явіліся 7 снежня, а цягам двух тыдняў пераўтварэнне чакае яшчэ шэсць вагонаў. Кожны з іх будзе мець сваю тэматыку: «Вагон класікі», «Бестселеры», «Вагон таямніц», «Вагон добрага настрою» і «Вагон дзіцячай літаратуры». Яны будуць упрыгожваць метро паўгода. «Кніжная» акцыя — частка праекта «Мабільная бібліятэка МТС».

• Амерыканскае выдавецтва *Knopf* выпусціла поўны збор лістоў Уладзіміра Набокава да жонкі Веры. Яе лісты не захаваліся. Існуе версія, што Вера сама іх знішчыла, бо не жадала, каб яе асабістае жыццё было ўва ўсіх навідавоку. Да таго літаратуразнаўцы не раз браліся за вывучэнне лістоў Набокава, маючы намер скласці поўную карціну яго жыцця, але дасягалі мэты рэдка. Так, біяграфію, напісаную Эндру Філдам, жонка пісьменніка назвала «скажонай і безжыццёвай». Цяпер у аматараў творчасці Набокава ёсць магчымасць самім скласці для сябе біяграфію любімага аўтара.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Любая прэмія — прэстыжная



**Дзесяць гадоў спаўняецца сёлета Саюзу пісьменнікаў Беларусі. За гэты час члены творчай арганізацыі неаднаразова станавіліся лаўрэатамі разнастайных літаратурных прэмій, у тым ліку міжнародных. Якіх канкрэтна? На гэтае пытанне карэспандэнту «ЛіМа» адказвае сакратар СПБ Георгій Марчук.**

— Цягам апошніх гадоў Саюз пісьменнікаў Беларусі падтрымлівае цесныя кантакты з творчымі арганізацыямі шэрагу краін. Гэта прыносіць плён: мы больш даведваемся пра літаратуру іншых народаў і стараемся прапаноўваць самыя яркія, таленавітыя творы айчыннай літаратуры для перакладу на замежныя мовы. Геаграфія такіх стасункаў паступова пашыраецца: нам паступаюць прапановы па абмене перакладной літаратурай ад пісьменніцкіх саюзаў Кітайскай Народнай Рэспублікі, Літоўскай Рэспублікі, Расійскай Федэрацыі, Сербіі і Чарнагорыі. Дарэчы, цяпер мы вяртаемся да ідэі выдання 50-томнага Збору твораў пісьменнікаў Расіі і Беларусі ў межах Саюзнай дзяржавы.

Для пісьменніка прэстыжная любая прэмія. Такія ўзнагароды даюць моцны стымул для творчасці, паказваюць, што пісьменнік заўважаны, што яго паважаюць і праца яго ацэнена. Выходзячы за межы вядомага тэзіса «Няма прарока ў сваёй Айчыне», надзвычай пільна ставімся да з'яўлення ў сучаснай літаратуры па-сапраўднаму яркіх твораў. Прыкладам, чытаем творы адзін аднаго, просім крытычнай ацэнкі таго ці іншага твора з боку Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук прафесара Аляксандра Лакоткі. Некалькі гадоў запар, да 2014-га, лепшыя творы айчыннай літаратуры адзначаліся прэміяй «Залаты Купідон» у дзесяці намінацыях. Сёлета ўпершыню ў гісторыі краіны была зацверджана і прысуджалася Нацыянальная літаратурная прэмія. Акрамя таго, існуе прэмія Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якая таксама прысуджаецца штогод.

За апошнія пяць гадоў шэраг пісьменнікаў уганараваны і расійскімі прэміямі. Так, лаўрэатамі прэміі «Зоркі Садружнасці» сталі старшыня СПБ Мікалай Чаргінец, старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч і дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак. Прэміяй імя Фёдара Цютчава адзначаны старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ, паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка і паэтэса Таццяна Шпартава, прэміяй імя Барыса Карнілава і Усерасійскай літаратурнай прэміяй імя Валянціна Пікуля — галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная», паэт Анатоль Аўруцін, прэміяй «Прохоровское поле» — празаік Алесь Савіцкі, які, на жаль, сёлета пайшоў ад нас, і Мікалай Чаргінец (дарэчы, Георгій Марчук уганараваны міжнароднай літаратурнай прэміяй імя Івана Ганчарова. — **Я. Я.**). Прэміяй імя Дзмітрыя Маміна-Сібірака адзначаны празаік Сяргей Трахімёнак, міжнароднай прэміяй Баяна — старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ, празаік Уладзімір Гаўрыловіч, празаік Васіль Ткачоў, паэты Міхась Башлакоў, Юрый Фатнеў, Генадзь Говар, Міхась Болсун, Ніна Шклярава.

Акрамя таго, рэгулярна вылучаем членаў СПБ на прэмію Астрыд Ліндгрэн. На яе атрыманне намініраваліся Уладзімір Ліпскі і Міхась Пазнякоў. Апошні, між іншым, вылучаны і на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Увогуле, добры літаратурны твор ніколі не згубіцца ў бязмежнай прасторы літаратурнай творчасці і абавязкова будзе заўважаны і прачытаны.

**Яна ЯВІЧ**

## Стасункі

# Водар старонак з Беларусі

**Нямала падзей культурнага, мастацкага, літаратурнага характару адбылося ў Ашхабадзе і іншых гарадах Туркменістана ў межах Дзён Беларусі ў Туркменістане. З пытаннем пра ўражанне ад сустрэчы з краінай, якая сёння з'яўляецца адной з найбольш выразных у сваім развіцці на постсавецкай прасторы, я звярнуўся да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілії Ананіч.**

— Туркменістан сапраўды варты ўвагі. І, канечне ж, сваімі гістарычнымі, прыроднымі прыкметамі, асаблівасцямі, — адказала Лілія Станіславаўна. —Але ж і тым, як ён выглядае ў эканамічным, народнагаспадарчым развіцці сёння. Ашхабад багацее новым архітэктурным абліччам. Толькі паспяваеш углядацца ў цікавыя здабыткі апошняга часу. Прыемна, што ў межах Дзён Беларусі ў Туркменістане адбылося нямала культурных, мастацкіх падзей. Мы падарылі сваім сябрам лепшыя навінкі беларускага кнігавыдання апошняга часу. Да месца былі і спецыяльны выпуск газеты «Літаратура і мастацтва», а таксама часопіса «Беларусь». Бачыла, з якой радасцю адкрывалі іх старонкі туркменскія пісьменнікі. Бо ў выданнях расказвалася і пра іх, былі змешчаны на беларускай мове іх творы. Цікавасць выклікалі і «круглыя сталы», якія былі прысвечаны гандлёва-эканамічнаму, культурнаму, літаратурнаму супрацоўніцтву нашых народаў, нашых краін.

Варта зазначыць, што група туркменскіх пісьменнікаў была ўзнагароджана медалямі Саюза пісьменнікаў Беларусі «За вялікі ўклад у літаратуру». Сярод тых, хто стаў уладальнікам такой высокапрафесійнай творчай адзнакі, — паэты і празаікі Агагельды Аланазараў, Касым Нурбадаў, Атамурад Атабаеў, Набаткулі Рэджэпаў. У А. Аланазарава ў Беларусі выйшла ўжо тры кнігі, адрасаваных юнаму чытачу. Знаёмы па-беларуску і творы іншых вышэйзгаданых пісьменнікаў. Атамурад Атабаеў паспяхова ў полі зроку беларускіх перакладчыкаў. Касым Нурбадаў і сам перакладае беларускіх паэтаў. У свой час, калі працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Магарыф», шмат зрабіў дзеля таго, каб пабачыла свет анталогія беларускай дзіцячай літаратуры «Ачык асман» («Яснае сонейка»). А знаёміць юнага чытача Туркменістана з беларускай літаратурай пачаў яшчэ ў даўнія 1970-я гг. з перакладаў вершаў Івана Муравейкі.

**Сяргей ПАЎЛАЎ,**
**г. Ашхабад, Туркменістан**

## Зваротная сувязь

# Прыемных адкрыццяў!

**Сустрэча супрацоўнікаў РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» з бібліятэкарамі Гомельскай вобласці прайшла ў межах падпісной кампаніі. У горад над Сожам завіталі загадчык аддзела прозы часопіса «Полымя» Уладзімір Саламаха, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман» Уладзімір Мазго і карэспандэнт газеты «ЛіМ» Алеся Лапіцкая. Старшыня Гомельскага абласнога аб'яднання Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч прадставіў не толькі гасцей з Мінска, але і часопіс «Маладосць», да дзейнасці якога ён мае непасрэднае дачыненне як член рэдкалегіі.**

Уладзімір Мазго па сакрэце распавёў, што яго першае каханне жыве ў Гомелі, — адпаведна, пачатак сустрэчы атрымаўся лірычным, і госці з задавальненнем паслухалі вершы, прысвечаныя светламу высокаму пачуццю. Многія творы Уладзіміра Мінавіча пакладзеныя на музыку і выконваюцца папулярнымі беларускімі спевакамі. Уладзімір Саламаха звярнуўся да гісторыі часопіса «Полымя» і «Выдавецкага дома "Звязда"», расказаў пра сучасную літаратурную сітуацыю і канкурэнтаў «сапраўднай літаратуры». Уладзімір Пятровіч адзначыў выдатны талент многіх гомельскіх пісьменнікаў і ўзгадаў творчае знаёмства з Уладзімірам Гаўрыловічам.

Алеся Лапіцкая прапанавала бібліятэкарам дзяліцца сваім працоўным досведам у рубрыцы «Бібліятэчны сшытак» і звярнула ўвагу на тыповыя памылкі ў арганізацыі прэзентацый, літаратурных сустрэч і юбілеяў. «Паспяховае літаратурнае мерапрыемства спрыяе павелічэнню цікавасці як да творчасці сучасных аўтараў, так і да нашай класікі. Таму пісьменнікі і выдаўцы вельмі разлічваюць на бібліятэкараў у прамоўцы новых кніг», — адзначыла карэспандэнт.

Зацікаўлены мастацтвам слова бібліятэкар можа натхніць многіх наведвальнікаў на займальнае чытанне па-беларуску. Таму супрацоўнікі выдавецтва пажадалі спецыялістам бадзёрасці, крэатыўных ідэй і прыемных літаратурных адкрыццяў.

**Юлія ШАПАКОВА**

# Масток, пракладзены «нёманцамі»

**Сустрэча літаратараў, знакавая для Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбылася на Уздзеншчыне: адметны майстар-клас, багаты творчы набытак прадэманстравалі творцы з Уздзенскага, Дзяржынскага і Клецкага раёнаў.**

Празаікаў і паэтаў шчыра віталі члены літаратурнага аб'яднання «Нёманец» і супрацоўнікі Уздзенскай раённай бібліятэкі на чале з дырэктарам Аксанай Драчан. Свята сучаснай паэзіі і прозы «Пад літаратурным ветразем» падарыла ўдзельнікам незабыўныя ўражанні, дало штуршок да творчасці, стала мастком да новага супрацоўніцтва.

Абмен творчым досведам паміж двума літаб'яднаннямі — дзяржынскім «Вытокам» і уздзенскім «Нёманцам» — працягваецца не першы год. Старэйшына літаратурнага Алімпа нёманскага краю Дзмітрый Вінаградаў успомніўпраперпершуюсустрэчу,каліблізкаесяброўстваtолькі марылася.

— Цяпер плён відавочны, — задаволены Дзмітрый Віктаравіч. — Сведчанне таму — больш глыбокая па змесце проза, вытанчаная паэтыка творчасці сталых аўтараў, да якіх далучаюцца навічкі.

Кіраўнік «Нёманца» Віктар Сабалеўскі прыгадаў шлях станаўлення мясцовага літаб'яднання. Літаратурная суполка на Уздзеншчыне існуе з 1967 года, аднак апошнім часам літаратурная плынь мясцовых творцаў значна пашырылася. Віктар Вацлававіч мяркуе, што аўтарству уздзенскіх літаратараў належыць не менш як 200 выданняў.

— Кожная сустрэча — магчымасць ацаніць прыбаўку да літаратурнага багажу, — зазначыла вядомая на Уздзеншчыне паэтэса Галіна Нічыпаровіч. — Асабліва радасна, калі выдаюцца новыя кнігі, з якімі можна выйсці насустрач і госцю, і чытачу.



*Падчас уздзенскай сустрэчы. Свой новы зборнік вершаў прадстаўляе Валерыя Рудакоўская.*

Дарэчы, новая кніга Г. Нічыпаровіч «Зімовыя забавы» нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

Падчас сустрэчы ў аўтарскім выкананні гучалі вершы сяброў Мінскага абласнога аддзялення СПБ і ўдзельнікаў літаб'яднання «Нёман» Дзмітрыя Вінаградава, Таццяны Цехнябедзінай, Віктара Сабалеўскага, а таксама Тамары Каляды, Вольгі Бокуч-Чабатаровай, Ліаны Тападзе.

Творчая справаздача сяброў дзяржынскага «Вытоку» змясцілася ў… кошыку, падрыхтаваным спецыяльна для гэтай нагоды! Дырэктар Дзяржынскай раённай бібліятэкі Валянціна Клімовіч расказала пра жарт, якім суправаджаў свой падарунак майстар Сяргей Старычэнка. «Ведайце: не толькі вершы пляту, але і кошыкі». Багаты скарб сваіх выданняў сабралі пісьменнікі Дзяржыншчыны! На імпрэзе члены СПБ Людміла Круглік, Рэгіна Рэўтовіч, Барыс Савінаў парадавалі калег узнёслымі радкамі пра Радзіму, каханне, засяродзілі ўвагу на ролі паэта. Антон Анісовіч пацешыў залу жартаўлівымі «антосікамі».

Кіраўнік клецкага літаб'яднання «Голас» Лілія Мялешка (паводле тутэйшых сведчанняў, аб'яднанне аматараў прыгожага пісьменства з'явілася на Клеччыне ў 1947 годзе) прыехала на сустрэчу разам з «касцяком» творчага калектыву. У вершаваных радках Лілія Віктараўна ўхваліла прыгажосць уздзенскага краю. Паэтычны дэбют на уздзенскай зямлі адбыўся ў клецкіх творцаў Віктара Кудаўца, Галіны Нупрэйчык (Плаксы), Таццяны Цвірка.

Аксана Драчан распавяла, што большасць удзельнікаў літаб'яднання — людзі сталага ўзросту. Але яшчэ летам яны абвясцілі пра стварэнне творчай моладзевай суполкі, якая атрымала назву «Вясёлка». Сюды ўвайшлі школьнікі і студэнты — усяго дзесяць чалавек, — якія паспелі ўжо заявіць пра сябе ўдалымі творамі. Напрыканцы імпрэзы ўдзельнікі пазнаёміліся з пробамі пяра дзвюх маладых аўтарак — Валерыі Рудакоўскай (творчы псеўданім — Лёля Рудзік) і Паліны Рандзер.

А ў Дзяржынску мяркуецца правесці калядную сустрэчу, якая таксама абяцае быць цікавай і змястоўнай. Тым больш што да свята мяркуюць выдаць зборнік, куды ўвойдуць творы 14 маладых аўтараў.

**Алена СТЭЛЬМАХ,**
**фота аўтара**

*За падзеяй*

# Nobeldagen.by

**Штогод 10 снежня адбываецца адна з найбольш значных падзей у грамадскім і інтэлектуальным жыцці Еўропы — цырымонія ўручэння Нобелеўскай прэміі (сам дзень называецца Нобелеўскім — *Nobeldagen*). Сёлетняя цырымонія мела для нас асаблівае значэнне: у Стакгольме Нобелеўскую прэмію атрымала грамадзянка Беларусі Святлана Алексіевіч, лаўрэат у галіне літаратуры.**

У гадавіну смерці заснавальніка прэміі Альфрэда Нобеля лаўрэатаў узнагароджваюць у сталіцах адразу дзвюх краін — Швецыі і Нарвегіі. У Стакгольме кароль Швецыі ўручае прэміі ў галінах фізікі, хіміі, фізіялогіі і медыцыны, літаратуры і эканомікі. У Осла, у прысутнасці караля Нарвегіі і членаў каралеўскай сям'і, старшыня Нарвежскага Нобелеўскага камітэта ўручае прэмію ў галіне абароны міру. Лаўрэаты атрымліваюць грашовую прэмію, памер якой змяняецца ў залежнасці ад даходу, атрыманага Нобелеўскім фондам, залаты медаль і дыплом. Сёлета памер прэміі склаў 8 мільёнаў шведскіх крон (953 тысячы долараў).

Святлана Алексіевіч выправілася ў Стакгольм яшчэ 5 снежня. 7 снежня яна выступіла з Нобелеўскай мемарыяльнай лекцыяй. Пісьменніца ўжо некалькі гадоў знаходзілася ў шэрагу магчымых лаўрэатаў прэміі. Першая намінацыя — 2002 год, за цыкл твораў «Галасы Утопіі» (завершаны ён у 2013-м кнігай «Час сэканд-хэнд»). Сёлетняя, пераможная, была трэцяй па ліку.

Цікава, што за ўсю гісторыю ўручэння прэміі ў галіне літаратуры Святлана Алексіевіч стала чатырнаццатай жанчынай са 112 пераможцаў. І гэтак жа чатырнаццаць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі маюць беларускія карані.

Падрабязна пра гэта напісалі Эмануіл Іофэ і Жанна Мазец у кнізе «Нобелеўскія лаўрэаты з беларускімі каранямі». Сярод іх найбольш вядомыя — ураджэнец Беларусі Сайман Кузнец, які атрымаў прэмію ў 1971 годзе за дасягненні ў эканоміцы; ураджэнец Віцебска Жарэс Алфёраў (2000 год, фізіка); ураджэнец Беларусі і грамадзянін Ізраіля Менахем Бегін (1978 год, прэмія міру); ураджэнец Валожынскага раёна Шымон Перэс (1994, прэмія міру). Беларускія карані мелі таксама адзін з вынаходнікаў атамнай бомбы Рычард Фейнман, даследчык тэрмадынамікі Ілья Прыгожын, хімік Аарон Клуг, палітычны дзеяч Іцхак Рабін ды іншыя.

Нобелеўскія ўрачыстасці працягнуцца да 12 снежня.

**Андрэй ЖБАН**

# Кніга жыцця

**Прэзентацыя дакументальнай кнігі «Жыццёвая дарога» адбылася ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П.Труса г. Узды. Аўтар кнігі, Вера Лукашэвіч, працуе загадчыцай аддзела сельскай гаспадаркі раённай газеты «Чырвоная зорка».**

Вандроўкі па раёне, збор інфармацыі пра жыхароў вёсак Уздзеншчыны не прайшлі марна. Геаграфія кнігі шырокая: вёскі Возера і Каралёва на ўсходзе раёна; Цеплень, Хатляны, Лоша, Губіна — паўднёвая ўскраіна, па дарозе ў Пухавічы; Пад'ельнікі і Падсадскія — на мяжы з Капыльшчынай; Сыманчыцы, Цялякава, Чырвоная Ніва, Кухцічы, Гарадок, Тычынкі — цэнтральная частка.

Кнігу склалі тры раздзелы: «Праз полымя вайны» (пра ветэранаў Вялікай Айчыннай і вайны ў Афганістане); «Гартаючы сямейны альбом» (тэма сямейнага ўкладу); «Святло захопленняў» (умельцы Уздзеншчыны). Адметная тэма сям'і: можна даведацца пра юбіляраў, што пяцьдзясят гадоў пражылі разам і сыгралі залатое вяселле.

«Чалавек, які знаходзіць радасны занятак у вольную часіну, ужо таленавіты...» — такую выснову зрабіла Вера Лукашэвіч пасля размоў з жыхаркамі вёсак на Уздзеншчыне, якія займаюцца вышыўкай крыжыкам і плятуць канву, ствараюць абярэжныя ручнікі, вырабляюць лялек у нацыянальных касцюмах. Пісьменніца называе сваю кнігу эксперыментам. І можна смела сказаць, што ён удаўся. Выданне стане добрым папаўненнем скарбонкі роднага краю.

**Ліана ТАПАДЗЕ**

# Ледзяной дарогай памяці

**У гісторыі Вялікай Айчыннай вайны 22 лістапада — памятная дата. У гэты дзень 74 гады таму пачала дзейнічаць легендарная «Дарога жыцця» праз Ладажскае возера. За першую зіму па яго ледзяной паверхні ў абложаны Ленінград былі дастаўлены тоны грузаў, былі эвакуіраваныя дзясяткі тысяч дзяцей. На долю маленькіх жыхароў горада на Няве ў той час выпалі не па-дзіцячаму суровыя выпрабаванні: голад, хваробы, смерць сяброў і блізкіх. Не лягчэй прыйшлося і дзецям акупаванай Беларусі.**

Менавіта ў гэты дзень, 22 лістапада, у 361-й базе аховы і абслугоўвання прайшла прэзентацыя кнігі Міхася Пазнякова «Хлеб для партызанаў» з серыі «Дзеці вайны», якая выйшла сёлета ў выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Міхась Паўлавіч нарадзіўся пасля вайны і ведаў пра яе толькі са слоў блізкіх. У аснову твораў леглі ўспаміны бацькоў, старэйшых братоў і сясцёр, якія знаходзіліся ў той час на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Яны ж і сталі галоўнымі героямі кнігі.

Міхась Пазнякоў распавёў, як мама з бабуляй начамі выпякалі хлеб. Раніцай мама, пасадзіўшы маленькіх сыноў на накрытыя сенам мяшкі, абыходзячы нямецкія пасты, дастаўляла хлеб на фурманцы ў партызанскі атрад. Рызыка была велізарная, бо за сувязь з партызанамі немцы не шкадавалі ні старых, ні малых! Яны не маглі падумаць, што маладая жанчына рызыкуе жыццём дзяцей, і прапускалі яе. Таксама Міхась Паўлавіч прачытаў вершы, прысвечаныя маці, роднаму дому — любай Быхаўшчыне.

На сустрэчу былі запрошаныя і «дзеці вайны». Першай на сцэну выйшла паэтка Джэма Случак-Марцінкевіч. 22 мая 1941 года ёй споўнілася 3 гады. Роўна праз месяц Германія напала на Савецкі Саюз. У яе памяці на ўсё жыццё засталіся змрочныя дні нямецкай акупацыі. Яна ўзгадала, як з мамай хаваліся ад карнікаў у душным цёмным склепе, як жыла на балоце, у партызанскім атрадзе, як паміралі ад тыфу сябры. Гэтыя горкія адгалоскі мінулага і былі пакладзеныя ў аснову вершаў «Нам патрэбны свет» і «Беражыце свет» з вершаванага зборніка «Матэматыка жыцця».

Затым на сцэну падняўся палкоўнік у адстаўцы, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Саюза журналістаў, аўтар зборнікаў вершаў «Шчаслівы, хто верыць», «Люблю цябе, жыццё!» Леанід Лукша. У гады вайны сябры і блізкія юнага Лёні сыходзілі ў партызанскі атрад. Пасля перажытых страт Леанід Васільевіч вырашыў стаць ваенным — скончыў ваеннае вучылішча і праслужыў 36 гадоў у ВПС. У заключэнне свайго выступу Леанід Васільевіч пажадаў салдатам спакойнай службы і мірнага неба.

**Ірына ЦУКАНАВА**

**Хведар ГУРЫНОВІЧ**



## Накцюрн

*Праз стыглае акно*
*Зара цьмянела цяжка,*
*Як моцнае віно*
*У зацямнёных пляшках.*

*Змрок вобмацкам ішоў*
*У спальню, каб не збіцца,*
*І твар хаваў у шоўк*
*Юрлівае спадніцы.*

*І шчырасць, і палон*
*Узбуджанага цела —*
*Сукенка, нібы звон,*
*Зміілася, трымцела.*

*Як рыба на вірах,*
*Праз шоўк бялелі сцёгны.*
*І вінная зара*
*Цякла на столі цёмнай.*

*А ў дворыку ў галлі*
*Свяціўся ветах мокры,*
*І п'янымі былі*
*Падсвечаныя вокны.*

## Дэбаты

*Зноў у парламенце дэбаты,*
*Зноў у бюджэце ў нас пралік.*
*А над палянкаю, дзюбаты,*
*Шчыруе звечара кулік.*

*Ён самку горача шукае,*
*Як сто, як трыста год назад.*
*І шакаладнымі жукамі*
*Уся аблеплена лаза.*

*А захад рыжы, быццам гліна.*
*Гэй, скульптар-май, сядай лацвей!*
*Ужо для будучага гімна*
*Ладуе ноты салавей.*

*Я вершы ўсе свае па слоўку*
*Табе аддам не для хвальбы.*
*А ты мне вылепі салоўку,*
*Такі ў мяне ў дзяцінстве быў.*
*Я сам замест зраблю ў начоўках.*
*«Нашто?» — карціць табе спытаць.*
*Я засвістаць хачу, зашчоўкаць,*
*Лясной паляны дэпутат.*

*Каб і мяне ў сталічным гуле*
*Пад тэлефонныя званкі*
*Усё ж заўважылі, пачулі,*
*Што ёсць — адзначылі! — такі.*

*Каб даказаць, што я не горшы*
*За тых, што з вершамі ў чарзе,*
*Што я спяваю не за грошы*
*І не змаўкаю балазе.*

*Я паступаю, пэўна ж, дзёрзка,*
*Але павер, прыяцель, мне —*
*Я дакажу, што ў Салігорску*
*У нас паэзія ў цане.*

*Я падзялю з табой пароўну*
*Усё, што ў сэрцы маю сам,*
*Вазьму з сабою ў свет чароўны,*
*Які я ў вершах апісаў.*

*Я з зорак выкладу арнамент,*
*Вясёлку выспелю ў вадзе...*
*А ў стольным Мінску зноў парламент*
*Дэбаты бурныя вядзе.*

## Векапомнае

*Пыл з-пад колаў — даўкі, вяжучы.*
*Конь са сцёртаю падковаю.*
*Клуб на ўзгорку: чэсна кажучы,*
*Хата простая вясковая.*

*Але ўтульная, ахайная,*
*Хоць ужо й старая трошкі.*
*Праўда, ў суме цэлафанавым*
*Вокны, нібы ад бамбёжкі.*

*Цэлафан прадраны, быццам бы*
*Шкло прахукана марознае.*
*Пад бярэзінамі ніцымі*
*Не хавае слёз Бярозаўка.*

*Майскі дзень — прыветны, сонечны.*
*Пах півоневы ліецца.*
*Сем дзясяткаў гон сягоннячы,*
*Як сяло спалілі немцы.*

*— Дзеткі збеглі ў ельнік рэдзенькі,*
*Да любой бяды гатовыя...*
*Вёска слухае Дзялендзіка*
*Дзевяностадвухгадовага.*

*Незабыўнае, гарэтнае...*
*Не, яно не скора скончыцца.*
*Я даўлюся цыгарэтаю,*
*Мне раўці таксама хочацца.*

*— Над Бярозаўкай палаючай*
*Пахла чорнымі картоплямі, —*
*Плача Жэня, ўспамінаючы,*
*Бацьку як жывым закопвалі.*
*Ах, сорак другі, маланкавы,*
*Векапомны год пакутлівы!*
*Паўрасталі ў жвір зямлянкамі,*
*Дзетварэчу ў мох паўхутвалі.*

*Голад шчэрыўся пагрозліва,*
*Прапаноўваў сук з вяроўкаю.*
*Прычакалі ўсё ж малодзіва,*
*Хоць з адзінаю кароўкаю.*

*Праз слязу скупую глянеце:*
*Шчэ і зараз не астылі*
*Папялішчы ў Ямным, Грамаце,*
*У Хадыках, у Хатынях...*

*Дзед закашляўся махоркаю.*
*Ад'язджаем надта рана мы,*
*І таксама чарку горкае*
*Паднімаем з ветэранамі.*

*П'ём за іх, за вечнасць цэлую,*
*Тост пры гэтым не гаворачы.*
*І маўчаць бярозы белыя*
*Каля клуба на падворышчы.*

## Сумнае

*Увяданья золотом охваченный...*
***Сяргей Ясенін***

*Павукі сумотным срэбрам*
*Вербалоззе азарылі.*
*Небасхіл ніжэе зрэбны*
*Над качыным азярынай.*

*Крылаў звон — струной напятай.*
*Лодка сушыць клюшні вёсел.*
*Наступае мне на пяты*
*Шэсцьдзясят другая восень.*

*На скрылі лямеш парэзаў*
*Клін жытнёвы за лагчынай.*
*Ах, ты, верасень, — гарэза*
*З сумнаватымі вачыма.*

*Я ахоплены таксама*
*Пазалотай завядання.*
*Шпак збіваецца ў прысадах,*
*Быццам клавіш западае.*

*А было — ў вясёлках росных*
*Паласкаў ён песняй горла.*
*Я таксама з песняй гойсаў*
*І гатоў звярнуць быў горы.*

*Мне таксама ў ладкі хлопаў*
*Свет вакольны днём вясенні...*
*Быў і я калісьці, хлопцы,*
*Кучаравым, як Ясенін.*

## Інстынкт

*Пясчаная горка, алешнік руды.*
*У золаце жыта — валошак радзімкі.*
*Бацькоўская хата, тарфянік, клады...*
*Усё, што завецца малою радзімай.*

*Іржавы лужок, раскаракі кусты.*
*Сумота, з якою цвітуць незабудкі.*
*Адкуль жа ён, гэты сабачы інстынкт, —*
*Радзіму любіць, як дашчаную будку?*

*Нашу я ўсё гэта з дзяцінства ў душы —*
*Не госць, не прыблуда і не пастаялец.*
*Для кожнай сцяблінкі я тут не чужы,*
*Баліць мне, які б ні парэзаў я палец.*

*За мёртвых баліць і баліць за жывых,*
*Баліць за радню і баліць за вяскоўцаў,*
*За тое баліць, што падманваюць іх,*
*Што глушыць дзяржава гарэлкай бясконца.*

*Дзяржавай — а кім? — падмануты і я,*
*Але не кляну, не ашчэрыўся зверам.*
*Радзіма — балючая маці мая,*
*І я ёй шчымліва, пакутліва веру.*

*Я ў веры-надзеі яшчэ не астыў,*
*Хоць рана крывавіцца ў сэрцы скразная.*
*Адкуль жа ён, гэты сабачы інстынкт?*
*Не знаю, не знаю... Не знаю...*

# На хвалях любові

**Тры паэты паяднаны ў падборцы перакладаў, здзейсненых Юліяй Алейчанка і Янай Явіч, — Ахмет Гурбанняпесаў, Бібі Араздурдыева і Набаткулі Рэджэпаў. Тры яркія мастацкія лёсы. Ахмет Гурбанняпесаў, які не так даўно пакінуў гэты свет, да Беларусі спрычыніўся праз пераклады Максіма Багдановіча. І сённяшняя публікацыя няхай будзе нейкім чынам і знакам удзячнасці яму за гэтую справу. Бібі Араздурдыева і Набаткулі Рэджэпаў і сёння працуюць у літаратуры. Актыўна, рупліва, з усім паэтычным запалам. Неяк мне давялося слухаць чытанне вершаў Набаткулі Рэджэпавым на вечары паэзіі ў ашхабадскім скверы «Натхненне». Зразумела, чытанне на туркменскай мове. Словы, з якімі творца звяртаўся да слухачоў, бралі ў палон. Мова, шматкроць адрозная ад беларускай, меладыяй сваёй нагадвала журчанне рачных хваляў, была атаясамленнем той атмасферы, праз якую ўяўляеш увесь Туркменістан, была адлюстраваннем яго колераў і фарбаў. Бібі Араздурдыева... Яна прадстаўляецца мне ці не лепшай прадаўжальніцай традыцый туркменскай жаночай паэзіі, закладзеных яе выдатнымі папярэдніцамі Таўшан Эсенавай, Сонай Язавай, а мо нават прадаўжальніцай пошукаў легендарных Мяхры Хабтан, Сахібджэмал, творчасць якіх толькі цяпер прыходзіць да чытача праз смугу далёкіх часін... Будзем спадзявацца, што гэтая публікацыя паспрыяе і іншым прачытанням вершаў Ахмета Гурбанняпесава, Бібі Араздурдыевай, Набаткулі Рэджэпава праз беларускі мастацкі свет.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

**Бібі Араздурдыева**

## Радзіме

*Гады сыходзяць — як бруіць вада*
*Ў струменях чыстых нашага быцця.*
*Калі б ні грукала у дзверы нам бяда —*
*Мацнее вернасць і любоў мая.*
*Падтрымка мне патрэбна ці парада —*
*Мая Радзіма, ты заўжды са мной.*
*Дапамагчы табе я буду рада*
*І не хавацца за тваёй спіной.*
*Ты бачыш неспакой і боль адразу,*
*Ты маці чуйная, што сэрца аддае.*
*У горы не пакінула ні разу —*
*Няхай цябе пашана не міне.*
*Прыходзіць сталасць, толькі паступова:*
*Ў сумненнях і надзеях, барацьбе.*
*Казаць хачу хвалы, павагі словы*
*І клопатам баюся стаць табе.*
*Змаганнем, працай, дабрынёй прыветнай*
*Вяртаецца ад сэрца дабрыня.*
*Гучыш у стагоддзях песняй запаветнай —*
*Мы без яе не вытрымаем ні дня!*

*Ах, калі б мне шчасліваю гадзінай*
*Адчуць павагу і зямны спакой:*
*Застацца ў памяці хаця б радком адзіным*
*Радзіма мілая і любая, з табой.*

**З туркменскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

**Набаткулі РЭДЖЭПАЎ**

## Рака і маладая жанчына

*Не дазволю глядзець. Прэч адсюль! — закляну.*
*Зоркі, досыць тарашчыцца вам з вышыні!*
*Ноч! Спяшайся, шчаслівая, бо не да сну,*
*Дай жа цемры пабольш са сваёй глыбіні!*
*Мабыць, месяц схаваўся за змрочнацю хмар.*
*Ці ж у хвалі Мургаба сышоў яго след?..*
*А дзве цемры, зямны і нябесны абшар,*
*Спалучыліся — вось і сцямнеў белы свет!*
*Ні адзення ля берага, ні вербняку!..*
*Не глядзі ў гэту цемру, сябе не суроч!*
*Толькі ціха жанчына глядзіць у раку,*
*Яны шэпчуцца. Вопратка — косы і ноч.*
*Хвалі пляск... Толькі шэпт... Недалёка, аднак,*
*Сілуэт над вадою агнём узляцеў*
*Гэта месяц, што ў цемры хаваўся, няўзнак*
*Бы растаў у купальшчыцы — зазіхацеў...*

**Ахмет ГУРБАННЯПЕСАЎ**

## Айдэрэ

*Як збяруцца на гары*
*Імгла, аблокі, туманы,*
*Незалежна ад пары —*
*З восені і да вясны —*
*У ауле цяжка жыць...*
*Дол і неба, срэбра гор —*
*Лёс табе Радзімай быць,*
*Айдэрэ майго прастор!*
*Айдэрэ, Айдэрэ,*
*Дарагое Айдэрэ!*
*Як падножжа з камянёў,*
*Скос цясніны ў Айдэрэ.*
*Горы да нябёсаў тут,*
*Ёсць арэх, таполя ёсць.*
*Будзе з лесу нам урук —*
*Краю горнага не госць.*
*Айдэрэ, Айдэрэ,*
*Дарагое Айдэрэ!*
*Роз, пунсовых, быццам кроў,*
*Росы слепяць чысцінёй,*
*Як каханне мрояў-сноў,*
*Згубленае... кім? Не мной?*
*Айдэрэ, Айдэрэ,*
*Залатое Айдэрэ!*

**З туркменскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

Віктар
КУНЦЭВІЧ

# Без пяці мінут жонка



Іван Дрозд сядзеў на ганку лазні і назіраў, як шпакі спрытна дзяўбуць вішні на дрэвах, што раскашавалі ў агародзе суседа.

— От нахабнікі! — падумаў Дрозд. — Нават клубніцы давялося ратаваць ад іх пражэрлівасці. — Ён пасміхнуўся, узгадаўшы разгубелены твар жонкі, калі яна, агледзеўшы грады, скрушна прамовіла: «Іван, нехта выбраў нашыя клубніцы…»

— Ды хто іх мог выбраць? — сказаў тады Дрозд. — П'яніцы гэтай справай займацца не будуць, а калі б у нашыя грады залез злодзей, то навошта яму калупацца ў клубніцах, калі вось яна, побач, стаіць, як лес, зялёная цыбуля — рві і нясі на базар.

— Куды ж тады падзеліся ягады? — ледзьве не плакала жонка.

Дрозд распавёў ёй пра шпакоў, а калі ў градзе Галіна знайшла некалькі птушыных пёрак, то ўзрушана-грозна сказала: «Я б хвасты павыдзірала гэтым шпакам, хаця і люблю птушак».

— Цяпер будзеш любіць аднаго Дразда, — пажартаваў Іван.

Жонка сярдзіта бліснула на яго шэрымі вачыма.

Аднекуль прыляцеў вецер, хістануў дрэвы, зашамацелі цэлафанавыя пакеты, якія сусед начапляў на галінкі вішань, і зграя шпакоў узнялася з дрэў і апусцілася на плот.

— А кыш! — Галіна распраміла спіну і кінула камяк зямлі ў бок плота, дзе паселі птушкі.

«І калі яна стала такой сярдзітай? — падумаў Іван Дрозд. — А была ж такой чулай, як пачалі сустракацца… І калі дзеці былі малымі, хапала ў яе душэўнай шчодрасці і для іх, і для мяне. А цяпер, калі засталіся адны, незадаволенасць і сярдзітасць так і мкнуць з яе. Чаму тады, у маладосці, я выбраў яе — Галіну, а не Наталлю, якая і знешне больш падабалася, і таксама праяўляла да мяне лагоднасць і чуласць? Як бы я жыў цяпер, калі б ажаніўся з Наталляй?»

Думкі пра Наташу апанавалі Дразда і вечарам, калі ён вярнуўся з жонкай у гарадскую кватэру. Галіна глядзела фільм, і ён утаропіўся вачыма ў экран тэлевізара, але героя фільма не бачыў, а бачыў яе — Наташу. Яму ўзгадалася, як Наташа вадзіла яго знаёміцца са старэйшай сястрой і яе мужам — афіцэрам міліцыі. Выдатная сервіроўка стала падказала тады хлопцу, што сваякі Наташы ўспрымаюць яго ўсур'ёз — як будучага мужа дзяўчыны. Аднак іх адносінам наканавана было скончыцца менавіта ў гэты вечар.

Калі Іван і Наташа развіталіся са шчодрымі гаспадарамі, на вуліцах горада змяркалася. Да інтэрната, у якім жыла Наташа, яны прайшліся пешкі. Наташа даверліва тулілася да пляча Івана. Некалькі разоў яны спыняліся і падоўгу цалаваліся.

— Мая сяброўка з'ехала да бацькоў, і ты можаш зайсці да мяне, пачастую кавай, — сказала дзяўчына.

У пакоі Іван ад кавы адмовіўся. Ён смела абняў Наташу і прыпаў да яе вуснаў. Адчуўшы, як па целе дзяўчыны прабегла хваля дрыжыкаў, Іван узняў яе на рукі і апусціў на ложак.

— Не, толькі не цяпер. Яшчэ не прыйшоў час! — Наташа вырвалася з абдымкаў.

— Мілая, ты ж мне без пяці мінут жонка, — дрыготкім голасам прамовіў Іван, у якім чулася крыўда. — Ты што, не верыш мне?

Наташа доўга маўчала, а потым прамовіла на дзіва цвёрдым голасам: «Вось як мінуцца гэтыя пяць мінут, тады і будзе табе ўсё дазволена, а цяпер… Цяпер ты мне пакуль што не муж».

Сур'ёзна, вельмі сур'ёзна пакрыўдзіўся Іван Дрозд. Ён моўчкі выйшаў з пакоя, а яна толькі праводзіла яго дакорлівым паглядам. Гэты дакор у паглядзе Наташы ён бачыў, калі яны выпадкова сустракаліся на вуліцы, але Іван паспешліва здароўкаўся і крочыў міма.

Аднойчы да Івана падышоў калега Ігар Кавалевіч:

— Іван, ты прабач, але я хачу спытаць у цябе наконт Наташы…

— Ну, спытай, — насцярожыўся Дрозд.

— Скажы шчыра, было ў цябе з ёй што-небудзь?

— Што ты маеш на ўвазе?

— Ну гэта… Былі паміж вамі… адносіны? — выпаліў Кавалевіч і прыкметна пачырванеў.

— Ты, напэўна, збіраешся з ёй ажаніцца, — крыху памаўчаўшы, прамовіў Іван. — Не было ў нас сексу, а калі б быў, то я б ажаніўся з ёй. Яна мне проста не паверыла.

— Дзякую. Яшчэ раз прабач. — Кавалевіч падаў Івану руку, і той пацінуў яе, адчуўшы вільготнасць і холад.

«Хвалюецца», — мільганула ў галаве Дразда.

— Іван, а тваю машыну адрамантуюць да выходных? — вярнуў яго ў рэальнасць голас жонкі.

— Не, там яшчэ шмат працы маляру, — неахвотна адказаў Дрозд.

— Я ў Віцебск цягніком не паеду.

— А табе і ехаць не трэба. Я сам усё адвязу Алене і з гаспадаром за кватэру разлічуся. І ўвогуле, мне больш падабаецца ехаць цягніком, чым за стырном машыны.

— Канечне. Будзеш казеліць зрэнкі ды смактаць піва.

— А што ў гэтым дрэннага? — спытаўся Дрозд і, не чакаючы адказу, змяніў тэму размовы. — Апошнім разам, калі мы былі ў Віцебску, пагартаў я залікоўку Алёны — яна стала слабей вучыцца.

— Нічога. Абы здавала сесіі, — адказала жонка і, узняўшыся з канапы, пакрочыла ў спальню.

З Віцебска Дрозд вяртаўся надвячоркам. Заняўшы сваё месца ў купэ вагона, паглядзеў праз акно: «Людзі — што мурашы, цягнуць валізы, сумкі, баулы… Куды спяшаюцца, дзеля чаго апантана працуюць? Усё ж знікае. Спачатку знікае рамантызм у жыцці, а потым і самое жыццё, якое не што іншае, як зачараванае кола мітусні».

— Можна да вас? — дзверы купэ адчыніліся, і на Дразда зірнула мілавідная круглатварая жанчына.

— Канечне, — адказаў Дрозд і прыязна пасміхнуўся.

Следам за кабетай у купэ ўвайшлі двое мужчын і ўнеслі з сабою пах гарэлкі. Аблічча аднаго з іх падалося Івану знаёмым. «Ды гэта ж Кавалевіч… Так, гэта Ігар Кавалевіч».

Здагадка ўзрушыла яго. За ёй мільганула другая: «Круглатварая поўная жанчына — гэта ж Наташа… Як я не пазнаў яе?»

А жанчына ўжо села ля акна насупраць Дразда і зацікаўлена глядзела яму ў твар.

Дрозд зірнуў ёй у вочы, а яна ніколькі не сумелася, не адвяла пагляду. «Так, гэта яна — Наташа. І яна пазнала мяне».

— Вось дык сустрэча! — урэшце выдыхнуў Дрозд.

— А мне падалося, што ты не пазнаў мяне, — спакойна прамовіла жанчына.

— Я проста задумаўся, таму не надта ўважліва паглядзеў на… — Дрозд зрабіў паўзу, разважаючы, як яму звяртацца да Наташы.

— На цябе. Што нам пераходзіць на «вы», калі мы, хаця і даўным-даўно, размаўлялі на «ты», — адказала Наташа.

— Дрозд, гэта ты? Колькі ж мы не бачыліся? — выгукнуў Кавалевіч. Ён прысеў побач з Іванам і падаў руку.

Дрозд абыякава пацінуў яго далонь, у голасе былога калегі ён пачуў падробленую радасць.

— Такую сустрэчу трэба адзначыць, — прапанаваў Кавалевіч.

— Мяне завуць Андрэй, — падаў руку Дразду спадарожнік Кавалевічаў шыракаплечы вусаты мацак.

— А я Іван. Вельмі прыемна, — сказаў Дрозд.

— Дык што, Наташа, за сустрэчу і за знаёмства трэба выпіць, — звярнуўся Кавалевіч ужо да жанчыны.

— Цяпер у цягніках не п'юць, — прамовіла Наташа.

— Наташка, мы ж ведаем, як гэта рабіць, — з усмешкай адгукнуўся вусаты Андрэй.

— Ну, калі ўмееце… — у вачах Наташы мільганулі агеньчыкі і згаслі, — то я не супраць.

— Тады я пабег, — падхапіўся на ногі Кавалевіч. — Да адпраўлення цягніка пятнаццаць хвілін, паспею зматацца ў гастраном.

Калі за ім зачыніліся дзверы, Наташа паглядзела ў вочы Дразду і па-свойску спыталася:

— Ну, як ты жывеш?

— Як усе, — адказаў Іван. — Дачка, жонка. Працу, канечне, змяніў. Раблю цяпер у прэс-цэнтры сілавой структуры, завочна скончыў журфак.

— А я жыву не як усе, — уздыхнула жанчына. — Андрэй, — яна кінула кароткі погляд на вусатага мацака, — мой цяперашні муж, а з Ігарам мы развяліся.

— А што… — хацеў штосьці спытаць Дрозд, але толькі разгублена паглядзеў на дзверы і змоўк.

— Ты здзіўляешся?.. Усе здзіўляюцца і нават пасміхаюцца: маўляў, жыву з двума мужчынамі… Калі мы пазнаёміліся з Андрэем і пачалі сустракацца, то я не стала доўга хавацца, а шчыра расказала Ігару. Прапанавала яму размяняць нашу трохпакаёўку. Жывём мы цяпер у Оршы, а ў Віцебск ездзілі на хрэсьбіны ўнучкі. Дык вось, адмовіўся Кавалевіч разменьваць жылплошчу і сыходзіць. Кажа, кахаеце адно аднаго, дык і жывіце. Вось так два гады і жывём. Ён дае частку зарплаты на кватэрплату і на ежу. Паўгода назад мы купілі машыну, і нам не хапала грошай, каб набыць такую, якую хацеў Андрэй, дык Ігар дабавіў…

— Здагадваюся, што пра вас пляткараць суседзі, — задумліва прамовіў Дрозд.

— Апошнім часам між мной і Ігарам усталяваліся амаль сяброўскія адносіны, — сказаў Андрэй і з горыччу ў голасе дадаў: — Але ж я бачу, як глядзяць на мяне людзі.

— Дрозд, я зусім нядаўна ўзгадвала пра цябе, думала, што, калі б тады, у маладосці, мы ажаніліся, то, магчыма, усё б склалася ў маім і ў тваім жыцці зусім па-іншаму.

— Ты хочаш сказаць, што шкадуеш, што сустрэла мяне? — кінуў на Наташу раўнівы пагляд Андрэй.

— Я шкадую, што сустрэла Кавалевіча, бо выйшла за яго, не падумаўшы…

У гэты момант дзверы ў купэ адчыніліся і ў памяшканне ўвайшоў задыханы Кавалевіч. Ён паставіў на столік пляшку мінеральнай вады, якую выняў з кішэні, а з невялікага пакета дастаў кавалак кілбасы, хлеб і сыр.

— Хутка зойдзе праваднiца, замовім гарбату, і ўсё будзе выдатна, — весела прамовіў ён.

Дрозд уважліва разглядваў былога калегу. Схуднелы твар Кавалевіча меў сінявата-шэры колер — падстава думаць, што чалавек рэгулярна выпівае. У рухах хударлявага цела адчуваліся энергія і сіла.

«Яшчэ не зусім спіўся, — падумаў Дрозд. Ён ведаў, што Кавалевіч служыў у дэсантных войсках, узгадаў, як той яшчэ ў час іх працы на заводзе паказваў хлопцам з брыгады, як трэба адным ударам разбіваць стос цаглін. — Як фізічна моцны чалавек так духоўна аслабеў? А можа, ён так моцна кахае Наташу, што згодны ахвяраваць мужчынскай годнасцю, каб толькі быць каля яе, бачыць яе, чуць яе?»

Праваднiца паставіла на столік шклянкі з гарбатай, пажадала смачна есці і зачыніла за сабой дзверы.

— Хто хоча гарэлкі, той павінен хуценька выпіць гарбату, каб мне было куды наліваць, — усміхаючыся, прамовіў Кавалевіч. — А хто не ведае, з чаго я яе буду наліваць, то тлумачу: вось з гэтай светленькай пляшачкі. — Кавалевіч узяў у руку пластыкавую бутэльку з-пад мінеральнай вады.

— За што будзем піць? — спытаўся вусаты Андрэй, калі Кавалевіч наліў у шклянкі.

— Спачатку за ўнучачку, у нас такая цудоўная ўнучачка, — горача загаманіў Кавалевіч, — а потым ужо і за сустрэчу. Выбачай, сябра… — крануў ён за плячо Дразда.

Пад чарку і спеў-грукат колаў гамонка ў купэ ажывілася. Дрозд усё часцей паглядваў на Наташу. Яго памяць нібыта згадвала параўноўвала яе пагляды, усмешкі, манеру гаварыць з тым, як яна гэта рабіла ў той далёкі час іх сустрэч. «Усміхацца яна стала стрымана, не так шчыра і адкрыта, — падумаў Дрозд. — І ўжо не такая балаболка, а спакойна-ўдумлівая, разважлівая».

Раптам Наташа спыталася ў яго:

— Іван, ты, пэўна, працаваў у газетах?

— Так, — хітнуў галавой Дрозд.

— Мне запомнілася адна публікацыя, падпісаная тваім імем, у якой пісалася пра бандытаў на дарогах. Гэта тваё?

— Быў такі матэрыял.

— Дрозд, ты цяпер журналіст? — ажывіўся Кавалевіч. — Значыць, нездарма ты розныя байкі-рыфмаванкі складаў. Значыць, талент не прапаў.

— Талент не прап'еш, — уставіў сваё слова Андрэй.

— Прапіць можна ўсё, абсалютна ўсё, — сумным голасам зазначыла Наташа і выразна паглядзела на Кавалевіча.

— Камень у мой агарод, — сказаў Кавалевіч. — Але ж ты ведаеш, Наташа, што да таго часу, як у нас з табой было ўсё добра, я не піў так, як п'ю цяпер.

— Хочаш, каб цябе пашкадавалі? Ігар, трэба быць сапраўдным мужчынам! — глухім голасам прамовіў вусаты Андрэй.

Твар Кавалевіча пачырванеў, вочы ўспыхнулі злосцю, а далоні сціснуліся ў кулакі.

— Яны яшчэ не біліся між сабой? — спакойна спытаўся Дрозд у Наташы.

— Не, да бойкі не даходзіла, — адказала жанчына.

— Што ты ведаеш пра маё жыццё? — роспачна кінуў Дразду Кавалевіч.

— Амаль усё. Яны мне распавялі, — парыраваў Дрозд.

— Калі паспелі?.. — здзіўлены Кавалевіч апусціў кулакі.

— Я вось думаю, што каму патрэбна быць сапраўдным мужчынам, дык гэта Андрэю, — цвёрда сказаў Дрозд. — Змог ён забраць жонку ў чалавека, павінен і стварыць умовы для нармальнага жыцця. А так… Сорамна глядзець на вас.

Вусаты Андрэй ніякавата апусціў вочы. Наташа глядзела на Дразда, і ў яе вачах ён убачыў дакор, акурат такі, як у той вечар, калі сыходзіў ад яе з інтэрнацкага пакоя. Кавалевіч сеў і ціха прамовіў:

— Ён сваю кватэру пакінуў жонцы і дзецям…

«Дурдом! — мільганула ў галаве Дразда. — Гэты дурань абараняе акупанта, які захапіў яго кватэру, забраў жонку…»

Дзверы купэ адчыніліся, і прысутныя ўбачылі праваднiцу.

— Пад'язджаем да Оршы. Пасажыры, рыхтуемся выходзіць.

Наташа, Андрэй і Ігар сталі збіраць рэчы. Першым вылузнуўся з купэ вусаты Андрэй, ён нават не зірнуў на Дразда.

— Бывай, — сказала, выходзячы, Наташа. — Дасць бог, можа, яшчэ пабачымся.

Кавалевіч абняў Дразда, штосьці памкнуўся сказаць, але махнуў рукой і пайшоў з купэ. Дразду стала шкада Кавалевіча. Ён пашкадаваў, што двойчы дрэнна думаў пра яго…

Праз гадзіну Дрозд быў у родным горадзе. Вечар ускалыхнуў каштаны, абдаў прахаладой твар. Да прыпынку пад'ехаў размаляваны рэкламнымі надпісамі тралейбус. Да яго пасунуліся людзі, а з усімі і Дрозд.

# Крохкі квет

**Калі дзеці — кветкі жыцця, то дзіцячую літаратуру справядліва было б лічыць кветам прыгожага пісьменства. Але ў тым і справа, што менавіта «было б». Ці заўсёды пісьменнік ставіцца з належнай сур'ёзнасцю да твора, адрасаванага маленькаму чытачу? Ці заўсёды выдавецтва разумее значнасць ілюстрацыі ў кнізе для дзяцей — ілюстрацыі адэкватнай, яркай, густоўнай? І з якімі крытэрыямі падыходзіць крытык да ацэнкі твора, які знешне нібыта просты, але… Пытанні, і зноў пытанні. Насамарэч, іх сабралася больш, чым можна сабе ўявіць, і адзін на іх, вядома ж, не адкажаш. Не знойдзеш адказы і сабраўшы прадстаўнічую калегію — але мы, прынамсі, паспрабавалі. За «круглым сталом» сабраліся людзі, якія прадстаўляюць адразу некалькі бакоў. Так, Уладзімір Мазго — дзіцячы пісьменнік, які да ўсяго ўзначальвае секцыю дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. Не менш вядомы аўтар Генадзь Аўласенка — ён жа намеснік галоўнага рэдактара «Бярозкі», часопіса для падлеткаў. Яна Явіч выступае ў ролі аўтара-сумяшчальніка: раней вядомая як паэтэса, яна таксама звярнулася да дзіцячай літаратуры. І Алеся Лапіцкая, якую чытач ведае як крытыка, мае ў гэтай гутарцы асабісты інтарэс: яна штодзень сутыкаецца з выбарам літаратуры для сваіх дзяцей.**

**Вядзе «круглы стол» Наста Грышчук.**

**Н. Грышчук:** Калі вы пачынаеце працу над новым творам, ці ўяўляеце сабе мэтавую аўдыторыю? Зразумела, што гэта дзіця, — але ці вызначаеце вы яго ўзрост, ці думаеце, што зацікавіць чытача?.. Ці, быць можа, вы пішаце для свайго «ўнутранага дзіцяці»? Чаму я ўвогуле звяртаюся да гэтага пытання: вельмі часта можна ўбачыць кнігу (перадусім гэта датычыць вершаў), напісаную нібы і для дзіця, але наўрад ці якраз яму гэты тэкст будзе напраўду цікавы. Прыкладам, у тысячны раз апісаны летні пейзаж…

**Г. Аўласенка:** Наўрад ці дзіцячы аўтар сядае за стол з думкай: «Так, пішу верш для пяцігадовага хлопчыка...» Тут ужо як атрымаецца. І па канчатковым тэксце можна меркаваць, што вось гэта, прыкладам, для навучэнцаў малодшых класаў…

**Я. Явіч:** Згодная. Пісьменнік перш за ўсё глядзіць на тое, які вымалёўваецца вобраз, якім паўстае герой, якімі рысамі ён будзе валодаць, як паставіцца да іншых персанажаў. А мэтавая аўдыторыя вызначаецца, калі кніга «на выхадзе».

**Н. Грышчук:** Выпрабоўваеце толькі што напісаны твор на сваіх дзецях, унуках, пляменніках?.. Увогуле, цікавіцеся непасрэднай, жывой рэакцыяй на твор яшчэ да яго друку?

> *Нельга сказаць: усім дзецям павінна падабацца менавіта вось гэта. Як адным дарослым даспадобы Стругацкія, а іншым — Данцова. Што ж зрабіць. З розных дзяцей вырастаюць розныя дарослыя.*

**Г. Аўласенка:** Калі дачка яшчэ хадзіла ў школу, яна актыўна крытыкавала мае творы. І слушна. Часта пад яе крытыкай я штосьці змяняў. А цяпер дзеці выраслі, унукі яшчэ маленькія — так што няма на кім «выпрабоўваць».

**У. Мазго:** Мой сын быў суаўтарам маіх твораў. Скажам, летам ён адпачываў у бабулі ў вёсцы, а потым распавёў: «Тата, ведаеш, у бабулі такі круты певень жыве… — не пускаў на падворак ні паштальёна, ні суседак». Так са слоў сына я напісаў казку «Круты певень». Ці такі прыклад суаўтарства з дзецьмі. Суседскі хлопчык неяк раз паведаміў мне: «Дзядзя Валодзя, а вы ведаеце, што ў Мінску ёсць непісьменны турнікет?..» — «Чаму, — цікаўлюся, — непісьменны?» — «А тата паднёс праязны, а ён паказвае "не чытае, не чытае, не чытае"». Гэтая гісторыя стала вершыкам «Непісьменны турнікет».

Гэта я да чаго. Дзіцячы твор — калі ты на свет глядзіш вачыма дзіцяці.

**Г. Аўласенка:** Думаецца, любы добры пісьменнік можа пісаць для дзяцей. Узяць таго ж Ясеніна, які нават раўнаваў па-свойму Маякоўскага: таго дзеці чыталі, а яго — не. Ясенін напісаў некалькі



*Яна Явіч.*

дзіцячых вершаў, даволі-такі пасрэднага ўзроўню... У той жа час Маякоўскага нельга параўнаць з Маршаком, Міхалковым.

**А. Лапіцкая:** Крытыка заўжды цікавіць, як самі пісьменнікі вызначаюць узровень дзіцячага твора. Бо калі з «дарослым» тэкстам працуюць літаратуразнаўчыя катэгорыі, то дзіцячая літаратура — справа крыху іншая, і нават больш складаная: наўрад ці знойдуцца хоць бы два крытыкі, якія сыдуцца ў вызначэнні добрага дзіцячага верша.

**Г. Аўласенка:** У мяне адзін крытэрый: падабаецца / не падабаецца.

**У. Мазго:** Калі сын быў малы, я «выпрабоўваў» верш на ім. Цяпер жа «выпрабоўваю» на цэлай дзіцячай аўдыторыі. Дзеці сапраўды самыя шчырыя, яны не зманяць: падабаецца — значыць, сапраўды добра, не — значыць, не. І сачыць за іх рэакцыяй заўжды цікава. Іншым разам верш, які ты сам лічыш творчай удачай, успрымаецца холадна. А пасля вершыка, здавалася б, нічым не прыкметнага, загараюцца вочкі, дзеці ўсміхаюцца.

**Н. Грышчук:** Дарэчы, пра ўспрыманне. Пераважная частка вашай аўдыторыі рускамоўная. А творы пішуцца па-беларуску. Не здараецца непаразуменняў?..

**У. Мазго:** Я стараюся пісаць мага прасцей, але, незалежна ад таго, напісаны твор па-руску ці па-беларуску, калі напісана хораша і шчыра, дзіця ўсё зразумее.

**Г. Аўласенка:** Яшчэ варта зазначыць, што дзіцячая аўдыторыя розная, як і дарослая. Нельга сказаць: усім дзецям павінна падабацца менавіта вось гэта. Як адным дарослым даспадобы Стругацкія, а іншым — Данцова. Што ж зрабіць. З розных дзяцей вырастаюць розныя дарослыя.

**Я. Явіч:** Але ўжо калі ім не спадабаецца, яны хлусіць не стануць. Скажуць проста ў вочы.

**А. Лапіцкая:** Значыцца, такі ў вас крытэрый. А што калі вы прачыталі верш на сустрэчы з чытачом, а верш не пайшоў? Вы яго ўсё роўна надрукуеце?

**Г. Аўласенка:** Я гляджу, ці зачапіла мяне самога. Цяпер збольшага ўвогуле прозу пішу, а раней адкладаў верш дні на два, а потым чытаў як нешта чужое. Таму што цалкам давярацца аўдыторыі нельга. Можа, дзеці прыйшлі на сустрэчу пасля шасці ўрокаў?.. І як быць з прозай? Не станеш жа чытаць уголас цэлую аповесць. Тут найлепшы варыянт, канечне, калі ты прыходзіш, а дзеці твой твор чыталі. Але такое рэдка бывае.

**Я. Явіч:** Чаму ж, я чытаю ўрыўкі са сваіх казак. І гэта, на мой погляд, найлепшая лакмусавая паперка. Выбіраеш фрагмент, самы цікавы, як табе здаецца, — і дзіця рэагуе, пачынае выказвацца.

**У. Мазго:** Яшчэ цікавы падыход: калі дзіця ўспрымае літаратуру не праз чытанне, а праз тэатр. Напрыклад, «батлеечным» спосабам. Ці праз песню.

**Я. Явіч:** Яшчэ важна дзяцей інтанацыйна зацікавіць. Як твор падасі — так яго і ўспрымуць.

**Г. Аўласенка:** Зноў-такі, у залежнасці ад тваіх акцёрскіх здольнасцей. У мяне іх няма. І што рабіць?.. Увогуле, ёсць людзі, якія на слых не ўспрымаюць інфармацыю. Я і сам такі. Мне трэба чытаць.

**Я. Явіч:** Я да таго, што, калі ты выходзіш, дзеці бачаць, хто перад імі. У іх вельмі тонкая душэўная арганізацыя. Не думайце, што яны такія ўсе спрэс камп'ютарызаваныя, не. Сучаснаму дзіцяці абы-што не падсунеш. У творы, асабліва дзіцячым, павінен быць нейкі экшн, дзеянне. Яно захопіць — так ці інакш.

**Г. Аўласенка:** Мы гаворым пра малодшую дзіцячую аўдыторыю. А падлеткі — гэта ўвогуле асобны чытач. Для іх пісаць найцяжэй.

**У. Мазго:** У нас, трэба сказаць, дэфіцыт падлеткавай літаратуры. Адзначаюць гэта і бібліятэкары.

**Г. Аўласенка:** Вельмі добрую аповесць для падлеткаў — «Прынцэса» — напісаў Алег Ждан. Нядаўна мы скончылі яе публікацыю ў «Бярозцы».

**Н. Грышчук:** Вы мяркуеце, што аўтары не хочуць браць на сябе дадатковую адказнасць, страшацца падлеткавай аўдыторыі — ці проста працы больш?..

**Г. Аўласенка:** Нават і не гэта — проста не ўсе могуць так пісаць. Трэба адчуваць сябе падлеткам. Парадокс, але дзіцем адчуць сябе лягчэй, чым падлеткам.

**А. Лапіцкая:** Тут і я б хацела падзяліцца ўражаннямі. Вось, напрыклад, чытаеш Валерыя Гапеева. Ён даволі вядомы аўтар, які піша ў тым ліку для падлеткаў... Але трэба помніць пра тое, што дзеці па-рознаму развіваюцца. І часам аўтар уяўляе свайго чытача-падлетка менш дасведчаным у сучасных пытаннях, вельмі простым; гэтага падлетка трэба выхоўваць, яму трэба нагадваць пра рэчы, вядомыя яшчэ з часоў літаратуры для малодшых школьнікаў. Але ж насамрэч падлеткавая літаратура складанейшая, і пісаць трэба па-сучаснаму, для сучаснага падлетка. А падлетак сёння і дваццаць гадоў таму… Гэта зусім розныя людзі.

**Г. Аўласенка:** Падлетак — шырокае паняцце. 13 гадоў — падлетак, і 16 гадоў — падлетак.

**Яна Явіч:** У Дастаеўскага падлетку быў 21 год.

**А. Лапіцкая:** Магчыма, варта арыентавацца на чытацкія рэйтынгі. Прыкладам, падчас маёй практыкі ў школе адзінаццацікласнікі чыталі «Над прорвай у жыце». Патрэбныя не проста павучальныя гісторыі, а нешта больш складанае.

**Я. Явіч:** Мне згадваецца адна аўтарка з «Бярозкі» — Ксенія Шталенкова. Вось у яе было якраз нешта для падлеткаў.

**Н. Грышчук:** Вы маеце на ўвазе «Адваротны бок люстра».

**Я. Явіч:** Так. Вельмі якасны твор.

**Н. Грышчук:** Калі цяжка вызначыцца нават з паняццем «падлетак», то як вы ўяўляеце самую падлеткавую літаратуру?

**Г. Аўласенка:** «Над прорвай у жыце» — класічны прыклад.

**Н. Грышчук:** Адчай і бунт?..

**А. Лапіцкая:** Аўтары ўяўляюць свайго чытача такім памяркоўным і спакойным… Быць можа, трошку радыкалізму ў творах і не хапае.



*Уладзімір Мазго.*

**Н. Грышчук:** Альбо яркага героя.

**А. Лапіцкая:** Так, але яркага героя трэба сканструяваць — для падлетка, які ёсць цяпер. Бо нават калі чытаеш Людмілу Рублеўскую, разумееш, што гэта не сучасны падлетак. Магчыма, аўтарка піша пра саму сябе, якой была калісьці.

**Я. Явіч:** Для мяне класічны падлеткавы герой — гэта Дзінка Валянціны Асеевай.

**Г. Аўласенка:** Цяпер шмат кепскага гавораць пра «Гары Потэра», маўляў, яго проста раскруцілі і г. д. Але заслуга яго ў тым, што многія падлеткі, якія да таго ўвогуле кнігу ў рукі не бралі (за выключэннем абавязковай школьнай праграмы), сталі чытаць. Гэта стала модна. Многія з іх зразумелі таксама, што чытаць не толькі модна, але прыемна і цікава.

**А. Лапіцкая:** У «Гары Потэры» пануе атмасфера ўніверсітэта: навучанне, здача іспытаў, хай сабе ў чароўнай форме... Так уздымаецца значнасць адукацыі, павышаецца прэстыж навучальных устаноў. І калі раней нехта саромеўся шмат вучыцца, быць «батанікам», то пасля «Гары Потэра» ён мог ганарыцца сваёй цікавасцю да навукі.

**У. Мазго:** У свой час існавала спецыялізаванае выдавецтва «Юнацтва», якое выпускала серыю «Бібліятэка прыгод і фантастыкі». Яна карысталася вялікім

# літаратуры

попытам. У тых творах былі і сапраўдныя героі, і дзеянне, якое не дазваляла адарвацца ад кнігі. Я і сам зачытваўся прыгодамі мараходаў…

**Г. Аўласенка:** Але варта памятаць, што гэта была іншая эпоха. У нас быў кніжны голад. Я і сам хапаў любую кнігу з пазнакай «фантастыка». Гэта зараз я ведаю, што яна, як і любая літаратура, бывае добрая і дрэнная.

**У. Мазго:** Я пра тое, што, пэўна, падлеткі ўжо не так любяць казкі.

**А. Лапіцкая:** Мне, напрыклад, хапае такіх беларускіх кніг — але ў тым і справа, што напісаныя яны ў 1960 — 80-х. І вельмі шкада, што ў бібліятэках такія выданні не так часта сустрэнеш, а перавыдаваць іх ніхто не збіраецца. А можна было б выдаць у лічбавай версіі. Ці такі падыход: існуе лічбавая версія кнігі, а раздрукоўваюць яе па патрабаванні чытача. Неяк раз я знайшла ў пера-кладзе Караткевіча аповесць адной славацкай пісьменніцы Э. Гашпаравай «Цяжка быць мустангам», сапраўды цікавы твор, да ўсяго — пазнавальны караткевічаўскі стыль. Але калі ў Нацыянальнай бібліятэцы ты гэты тэкст знойдзеш, то недзе яшчэ — наўрад... Хацелася б, каб гэтая праблема паступова вырашалася.

**У. Мазго:** Дарэчы, пра Караткевіча. Добра памятаю, як у падлеткавым узросце зачытваўся яго «Чазеняй» і «Вокам тайфуна».

**Н. Грышчук:** Большасць сённяшніх беларускамоўных вырасла з Караткевіча.

**Г. Аўласенка:** Вось яшчэ класічная аповесць для падлеткаў — «Палеская рабінзоны».

**У. Мазго:** Ёсць яшчэ і новыя «Рабінзоны…».

**Г. Аўласенка:** Пра іх лепш не будзем.

**Н. Грышчук:** Дарэчы, як вы ставіцеся да працягаў, перастварэнняў літаратурнай класікі?

**Г. Аўласенка:** Ёсць паняцце «рэмейк». І ёсць паняцце «плагіят». І часта іх бывае цяжка размежаваць. Лепш пісаць свае творы. Я да так званых працягаў стаўлюся адмоўна.

**Я. Явіч:** І яшчэ бывае якасны рэмейк і якасны плагіят. Тады дакладна адно ад другога не адрозніш.

**А. Лапіцкая:** Неяк раз падчас гутаркі з галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» размова зайшла пра «Цудоўнае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі». Мы бачым гэты твор ужо з выдрымкамі, бо ў арыгінале вельмі шмат геаграфічных ды іншых звестак пра Швецыю. А так тэкст адаптуецца для замежнага чытача. І мне здаецца, што ў многіх нашых класічных творах пэўныя фрагменты можна б было скарачаць, прыкладам, апісанні колішняй сацыяльна-палітычнай сітуацыі. Іх хочацца проста выкрасліць — і, думаецца, самі аўтары былі б не супраць. Але для Віктара Шніпа гэты падыход непрымальны. А як вы лічыце?

**Г. Аўласенка:** У арыгінальным «Падарожжы Гулівера» працэма такога, чаго дзецям наогул бачыць нельга!..

**Я. Явіч:** А казкі Шарля Перо ў арыгінале?.. Ад іх дзецям будуць жахі сніцца.

**Г. Аўласенка:** Дарэчы, дзеці любяць жахі.

**А. Лапіцкая:** Так, магчыма, сучасныя дзеці былі б у большым захапленні якраз ад крывавага Шарля Перо… Але іншая справа, што гэтыя тэксты былі не зусім для дзяцей. Яны пісаліся ў той час, калі казкі мелі папулярнасць у дарослай аўдыторыі.

**У. Мазго:** І ўсё ж казка мусіць быць добрая і спагадлівая. Бо залішняя жорсткасць непажаданая. Вядома, у жыцці бывае рознае, не толькі добрае, але казка мусіць выхоўваць у чалавеку лепшае. Цяпер не хапае работы з аўтарамі, не хапае конкурсаў. Чаму з'яўляліся такія цікавыя кніжкі? Таму што стымул быў. Адгукаліся і пісьменнікі, і тыя, хто толькі адчуў у сабе творчыя здольнасці. І журы не ведала, хто ёсць хто, тэксты ішлі за нумарамі. Мы ведалі канкурсантаў не ў твар, а ў твор.

**Я. Явіч:** Дарэчы, пра цікавы твор. Абавязкова трэба, каб у ім прысутнічаў фальклорны кампанент, песеннасць, казачнасць. А то сёння, прабачце, лепшыя фальклорныя героі — гэта Чалавек-Павук і Бэтмэн.

**Н. Грышчук:** Няварта гэтых герояў успрымаць адно як прадукт маскульту і спрошчанай свядомасці. Яны і ёсць новая міфалогія.

**Г. Аўласенка:** Вось гэтае пытанне мы яшчэ не закраналі. Коміксы — яны патрэбныя?

**А. Лапіцкая:** Гэта добрая форма прэзентацыі твора.

**Я. Явіч:** Альбо калі ты чытаеш твор, а потым спыняешся і пытаешся ў дзяцей, які можа быць фінал.

**Г. Аўласенка:** Але гэта ўжо гульня. Яна да мастацкай літаратуры ніякага дачынення не мае.

**Я. Явіч:** Прэзентацыя кнігі ў дзіцячай аўдыторыі мусіць утрымліваць элемент гульні.

**Г. Аўласенка:** Павінен быць выхаваўчы момант, а не гульня.

**Н. Грышчук:** Калі ўсё ж вярнуцца да комікса і прыгадаць такі прыклад — «Дзікае паляванне караля Стаха» ў малюнках Адама Глобуса. Як вы думаеце, ці варта паўтараць такі эксперымент?

**Г. Аўласенка:** Магчыма, толькі тэксты павінны быць больш набліжаныя да арыгінала, а малюнкі — больш дзіцячыя.

**У. Мазго:** Калі я працаваў у «Вясёлцы», мы змяшчалі на апошняй старонцы вокладкі комікс па казцы беларускага пісьменніка.



Алеся Лапіцкая.

**А. Лапіцкая:** Помніцца, нешта падобнае рабіла «Маладосць», па творах Караткевіча. Але яна змяшчала ўсяго пару малюнкаў на нумар, і ўсё гэта расцягнулася на год… Здаецца, так і не ўбачылі завяршэнне комікса.

**Г. Аўласенка:** Лепш стварыць асобны комікс, асобны арыгінальны твор менавіта для графічнай падачы, не чапаючы мастацкую літаратуру.

**Я. Явіч:** Толькі малюнкі мусяць быць якасныя. А то бывае, што тэкст файны, а малюнкі ніякія. І наадварот.

**А. Лапіцкая:** Гэтае пытанне мы таксама хацелі абмеркаваць. Сучасная кніга ствараецца як пісьменнікам, так і мастаком. Ці заўсёды вы задаволеныя ілюстрацыямі да вашых кніг? Ці можа пісьменнік неяк паўплываць на працу мастака? І што ўвогуле можна сказаць пра тыя кнігі, што выходзяць апошнім часам?.. Прыкладам, «Дзе хаваецца небяспека» Валянціны Дынько — вельмі актуальная па змесце кніга, а вось малюнкі вяртаюць нас у савецкі час.

**Г. Аўласенка:** Мы самі былі маленькія ў савецкі час, таму мне, напрыклад, такія малюнкі больш падабаюцца, чым вось гэта («Нататкі таткі» Андрэя Хадановіча).

**А. Лапіцкая:** Так, але ж гэтая кніга для сучасных дзяцей.

**Г. Аўласенка:** Хіба сучасныя дзеці нейкія іншыя? Ім нешта іншае патрэбна?..

**Н. Грышчук:** Разумееце, у кнізе В. Дынько ілюстрацыі занадта літаральныя. А ў «Нататках таткі» ёсць месца для фантазіі, мастацкі пачатак.



Генадзь Аўласенка.

*Калі ты выходзіш да дзяцей, яны бачаць, хто перад імі. У іх вельмі тонкая душэўная арганізацыя. Не думайце, што яны такія ўсе спрэс камп'ютарызаваныя, не. Сучаснаму дзіцяці абы-што не падсунеш.*

**Яна Явіч:** Дзіця спачатку разглядае малюнкі, а ўжо потым бярэцца за тэкст. Мне аздабленне маіх кніг спадабалася вельмі. Яно адаптаванае менавіта для малодшых школьнікаў. У «Нататках таткі» ілюстрацыя нацэленая на падлетка, а тэкст — не.

**Н. Грышчук:** Але калі заўсёды капіраваць тэкст (ідзе размова пра качаня — малюем качаня), то як развіваць мастацкі густ, фантазію?..

**У. Мазго:** Мастак і пісьменнік мусяць быць суаўтарамі кнігі. Што да мяне… Быў такі адмоўны прыклад. Некалькі гадоў таму выдаваў кнігу для дзяцей у адным выдавецтве, якое не будзем называць. І дырэктар яго сказала: пойдзем па шляху эканоміі, выдадзім без малюнкаў. Маўляў, так танней. Я разумеў яе — але не як чытач. Бо кніга без малюнка каму патрэбная?.. У маркетынгавым аддзеле мне тлумачылі, што кніга прызначаная для чытання дарослымі дзецям. А потым кніжку не хацелі браць. І ўсё ж збольшага мне шанцавала, вельмі. Мае кнігі афармлялі славутыя майстры — Валерый Славук, Таццяна Беразенская, Рыта Цімохава. Кніга мусіць быць яркая, асабліва — вокладка.

**Г. Аўласенка:** Але, на жаль, гэта значна павышае кошт выдання.

**Н. Грышчук:** Мне б хацелася вярнуцца да пытання пра асобны конкурс для аўтараў дзіцячай літаратуры. Спадар Уладзімір, ці не думае секцыя дзіцячай літаратуры СПБ пра яго арганізацыю? Вядома, ёсць намінацыя ў межах Нацыянальнай літаратурнай прэміі — але гэта толькі намінацыя. Патрэбна нешта больш значнае.

**У. Мазго:** Калі казаць пра Нацыянальную прэмію, то менавіта наша секцыя рэкамендуе дзіцячыя творы для ўзнагароджвання. Цягам года мы адсочваем новыя кнігі. Часам да нашай думкі прыслухоўваюцца, а часам, чамусьці, не.

**Г. Аўласенка:** Конкурс можна было б заснаваць — пад эгідай Саюза пісьменнікаў ці гарвыканкама; нехта павінен фінансава яго падтрымліваць. А так — спробы былі, і шмат… Мы абедзвюма рукамі «за», але на гэтую тэму трэба размаўляць не з намі.

**А. Лапіцкая:** Кажучы пра публікацыю твора, мы засяроджваемся на тым, што трэба менавіта выдаць кнігу. Але сучасныя магчымасці больш шырокія. Можна рэалізаваць працэму электронных праектаў. У «ЛіМе» даволі часта пішуць пра навінкі дзіцячай літаратуры, але пісаць пра нешта падобнае яшчэ не даводзілася.

**Г. Аўласенка:** А як на мяне, не хапае крытычных водгукаў менавіта на дзіцячую літаратуру. Не толькі рэкламна-паведамляльных, што вось, выйшла такая вось кніга, але менавіта разглядаў, са слушнымі заўвагамі.

**А. Лапіцкая:** Не хапае яшчэ адной важнай рэчы — рэйтынгаў продажаў дзіцячай літаратуры. Дзіўна: калі пытаешся ў пісьменніка, як прадаецца яго кніга, ён нічога ўцямнага адказаць не можа. Калі б рэйтынгі існавалі, пісьменнікі б ведалі, на што арыентавацца.

**Г. Аўласенка:** Гэтым усім мусіць займацца той, каго ў нас няма, — літаратурны агент. Пісьменнік толькі піша.

**Н. Грышчук:** А калі завесці размову пра калег, чыя творчасць вам сімпатычная, і пра творы, што найбольш спадабаліся?..

**Я. Явіч:** Для мяне такія аўтары — Успенскі і Остэр.

**У. Мазго:** Гады два ці тры таму ў выдавецтве «Адукацыя і выхаванне» выйшла кніжка «Жыве на свеце шчасце» Вольгі Караткевіч. Цікавая аўтарка. Яна і мастак вельмі цікавы, сама афармляла кнігу. Мы хацелі звязацца з ёю, прыняць у Саюз пісьменнікаў. Але калі пачалі пошукі, аказалася, што яна з'ехала з Беларусі і цяпер знаходзіцца недзе ў Падмаскоўі. Яшчэ адна цікавая аўтарка, якая яшчэ школьніцай друкавалася ў «Вясёлцы», — Ясенія Сцяпанава. Яе кнігу, што выйшла па-руску, па-англійску і па-беларуску, аздабляў Валерый Славук.

**Г. Аўласенка:** Вось яшчэ якая адметная з'ява: калі пачыналі мы, то пачыналі з дарослых твораў. У дзіцячую літаратуру сталае пакаленне прыйшло пазней — згадаць тую ж Раісу Баравікову. А цяпер маладыя бяруцца адразу за дзіцячыя творы. Насцярожана да гэтага стаўлюся. Бо для дзяцей трэба пісаць як для дарослых, але яшчэ лепш. І калі пісьменнік яшчэ не прайшоў школу дарослага аўтара…

**Н. Грышчук:** Дык што ж такое добрая дзіцячая кніга?.. Быць можа, кніга, якая будзе цікавая і дарасламу? У якой ёсць падвойнае дно? Добрая дзіцячая кніга застанецца актуальнай для чалавека і тады, калі яму будзе пяць, і калі споўніцца пяцьдзясят.

**Я. Явіч:** Мне думаецца, добрая дзіцячая кніга тая, у якой дзіця праз героя нечаму вучыцца.

**Г. Аўласенка:** А якой тады павінна быць беларуская дзіцячая кніга? Больш абапірацца на ўласныя традыцыі, фальклор — ці азірацца на агульнасусветныя кірункі?..

**Н. Грышчук:** Тут, пэўна, кожны аўтар вырашае для сябе.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Чараўніцтва і дэмакратызм маладога тэатра



Сцэна са спектакля «Дэмакратыя».

Спектаклі фестывалю нельга назваць аднолькавымі альбо блізкімі па сэнсе, кожны калектыў паспрабаваў паказаць асаблівасці выбранай менавіта ім пастаноўкі. Аматары тэатра на працягу тыдня маглі ўбачыць каля васямнаццаці спектакляў.

## ЗАХОПЛЕНЫЯ МІСТЫКАЙ

Тэатральная майстэрня «Студыёзы» (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Мінск) падрыхтавала для гасцей фестывалю сапраўдны сюрпрыз, прадставіўшы спектакль «Вій». Тэатральная зала была зачаравана містычным дзеяннем, на сцэне практычна не было дэкарацый, акцёры за кошт гукаў, ценяў, гульні святла і сваіх палохаючых касцюмаў перадавалі жахлівы настрой гогалеўскага твора. Рэжысёр спектакля, Вячаслаў Сашчэка, не стаў адыходзіць ад традыцыйнага сюжэта. У выніку атрымалася фантастычная гісторыя ў жанры чорнага гумару. Нельга не падкрэсліць працу акцёраў, якія прафесійна справіліся са сваімі мэтамі і ўвялі гледача ў стан неадназначнасці. Здзіўленыя і ў той жа час захопленыя містыкай, вочы гледачоў праважалі таленавітых акцёраў са сцэны.

## ПАЙСЦІ І ВЯРНУЦЦА

На дванаццатым «Тэатральным куфры» прадстаўнікі беларускага тэатра захапілі гледачоў эксперыментамі і зваротам да класічнай літаратуры. Майстэрня Мікалая Кірычэнкі (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Мінск) прадставіла ўвазе наведвальнікаў спектакль, пастаўлены па рамане Васіля Быкава «Пайсці і не вярнуцца». Зноў разгортваецца тэма вайны, але вайна тут — рэалістычная акалічнасць, галоўны складнік спектакля — каханне. Людзі, якія гатовы закрываць адзін аднаго ад куль і небяспекі да апошняга, людзі, якія знаходзяць сілы ў самы складаны, небяспечны час пранікнуцца адзін адным і разам імкнуцца наперад. Тэатральная пастаноўка адлюстроўвае ўсе цяжкасці галоўных герояў, іх запаволенасць і моцную вытрымку. Зоська і Антон ведаюць, што іх чакае, ведаюць, што, верагодней, выратавацца і не атрымаецца, але разумеюць: думаць пра благое можна, а гаварыць нельга. Сёння на тэатральных сцэнах паказваюць мноства спектакляў пра каханне, але не ўсе яны чапляюць. Пастаноўка «Пайсці і не вярнуцца» з першых хвілін ахутвае праўдзівасцю, і са спектакля з пустым сэрцам не сыдзеш.



Сцэна са спектакля «Гамлет».

## НАТХНЕННЕ ЧЭХАВЫМ

Ніводзін тэатральны фестываль не абыходзіцца без твораў Антона Паўлавіча Чэхава. «Тэатральны куфар» не выключэнне. Рэжысёр Андрэй Саўчанка (Мінск, Беларусь) прадставіў гледачам свой тэатральны праект «Сад», пастаўлены па чэхаўскай п'есе «Вішнёвы сад». Цікавасць гэтай пастаноўкі ў тым, што яна ўяўляе сабой монапрадстаўленне. Лірычны настрой спектакля перадаецца праз маўклівыя сцэны. Адчуваецца глыбокае адлюстраванне ўнутранага свету галоўнага героя. Праз яго ўспаміны, адзіноту, страты і бездапаможнасць спектакль набывае своеасаблівую аўтарскую атмасферу.



Фота Юліі Ашуркавай.

Сцэна са спектакля «Эдзіт Піяф. Мой Легіянер».

## КАМІЧНЫ ГАМЛЕТ

«Тэатральная студыя 29» Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта прадставіла ўвазе наведвальнікаў тэатральную пастаноўку «Гамлет». Творы легендарнага англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра ніколі не страчваюць актуальнасці, яны вечныя, недарэмна многія з лепшых тэатраў свету славяцца яго пастаноўкамі. Па словах рэжысёра спектакля Андрэя Гарбатага, у кожным пакаленні ёсць свае Гамлеты, ён лічыць, што «Гамлет» карыстаецца вялікай цікавасцю і гэту тэатральную карціну кожны раз трэба ставіць па-новаму, бо вобразы застаюцца, а сітуацыі складваюцца не заўсёды аднолькава.

На гэты раз «Гамлет» быў прадстаўлены не ў трагічным, а, наадварот, у камічным варыянце, што вельмі захапляе і натхняе на прагляд пастаноўкі з большай увагай да дэталяў. Клаўдзій ператвараецца ў прастадушнага чалавека, Разэнкранц і Гільдэнстэрн становяцца неразлучнымі «памочнікамі» для Гамлета, а Магільшчык асацыюецца з вобразам жыццярадаснага філосафа. Такі нечаканы пераварот класічнага твора рэжысёр характарызуе як магчымасць эксперыменту. Ад арыгінала ў спектаклі засталіся толькі лад думак і героі, але на дакладнасць і блізкасць да знакамітай п'есы гэта тэатральная карціна не прэтэндуе.

## ШТО ТАКОЕ КАХАННЕ?

Са спектаклем «Эдзіт Піяф. Мой Легіянер» у Мінск прыехаў Валкскі гарадскі тэатр Валка (Латвія). Дзеянне пастаноўкі адбываецца ў 1936 годзе. Як паведамляе рэжысёр карціны Айварс Ікшэліс, гэты спектакль — рамантычная фантазія на тэму першай сустрэчы знакамітай спявачкі, актрысы Эдзіт Піяф і шматразовага чэмпіёна Францыі, чэмпіёна Еўропы ў другой паўсярэдняй вазе Марсэля Сердана. У аснове сюжэта паказана развіццё іх адносін, складаных, але шчырых. Гэты быў час росквіту іх маладосці і кар'еры. Спектакль падобнага тыпу прымусіць гледача як расплакацца, так і рассмяяцца да слёз. У пастаноўцы няма фотаздымкаў на заднім плане альбо відэасюжэтаў, затое дзеянне на сцэне не проста пра каханне і пачуцці, а пра час, хуткацечнасць, гісторыю і вайну. Спектакль-эмоцыя паказвае становішча галоўных герояў, іх стыль жыцця, падштурхоўваючы задумацца, што ж насамрэч такое каханне. Падчас дзеяння было заўважна, наколькі акцёры ўвайшлі ў ролю герояў, яны пражылі з імі цэлае жыццё. Узяўшы на сябе адказнасць іграць перад гледачамі менавіта гэтых асоб, артысты змаглі даказаць свой высокі прафесіяналізм.

## ШТО ТАКОЕ ДЭМАКРАТЫЯ?

П'есу-памфлет Іосіфа Бродскага «Дэмакратыя», напісаную на мяжы 1980 — 1990-х гадоў, паказаў Камерны драматычны тэатр (маладзёжная трупа, Кастрама. Расія), якую паставіў рэжысёр Станіслаў Галадніцкі. Дзеянне п'есы ў большай ступені не мае ні канкрэтнай геаграфічнай, ні часавай лакалізацыі, галоўныя героі быццам не маюць твараў. У звычайным грамадстве паступіла ўказанне аб'явіць аб увядзенні дэмакратычнага рэжыму, дзе героі пачынаюць задумвацца, што такое дэмакратыя і навошта яна ім патрэбна. Не разумеюць сэнсу, не разумеюць мэты ламаць настолькі звыклы ўклад. На пытанне «Што такое дэмакратыя?» падчас дзеяння адказвалі не толькі акцёры — яно было адрасавана і ў тэатральную залу. Такі падыход дазволіў гледачу не проста сачыць за дзеяннем, але і ўступіць у дыялог з акцёрамі, а адказваючы на пытанне, зразумець іх вобразы, выбраць для сябе цікавых герояў.

Спектакль «Дэмакратыя» выклікаў станоўчыя водгукі не толькі таленавітай, інтрыгуючай гульнёй акцёраў — своеасаблівай «фішкай» пастаноўкі стала яго прадуманае афармленне. Апынуўшыся ў тэатральнай зале, гледачы адразу ж пачыналі апладзіраваць: уражвалі цікавыя дэкарацыі і рэтра-аўтамабіль.

## ДА ЧАГО ПРЫЙШЛІ

Журы аб'ектыўна ацэньвала здольнасці і падрыхтоўку тэатраў. Такім чынам, гран-пры атрымаў спектакль «Вій» Тэатральнай майстэрні «Студыёзы» (Мінск, Беларусь) і за лепшую сцэнаграфію. Лепшай актрысай «Тэатральнага куфра» ў гэтым годзе стала Дар'я Пармяненкава (майстэрня Мікалая Кірычэнкі), а званне лепшай актрысы другога плана атрымала актрыса Іна Кузьміна (тэатр «СінематографЪ» (Кіеў, Украіна)). Звання лепшы акцёр уганараваны акцёр Дзяніс Грыгарук (тэатр «СінематографЪ» (Кіеў, Украіна), а лепшы акцёр другога плана — Мікіта Прымачэнка (Тэатральная майстэрня «Студыёзы» (Мінск, Беларусь)).

Беларускі тэатр развіваецца. З кожным годам нашы тэатральныя дзеячы робяць крокі наперад, эксперыментуюць, шукаюць актуальныя тэмы і здзіўляюць гледачоў. «Тэатральны куфар» — гэта сапраўдны механізм развіцця маладзёжнага тэатра і штуршок да дасягненняў новых высокіх мэт.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Акцыі*

# Душэўная лірыка

Аўтарская вечарына паэта, намесніка старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрыя Радзівончыка адбылася ў межах рэспубліканскай акцыі «Сямейнае чытанне» ў Гродзенскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.

У творчай скарбонцы Д. Радзівончыка — тры рускамоўныя паэтычныя зборнікі. У выдадзеную сёлета кнігу «Рака бязмежная», рукапіс якой стаў пераможцам другога абласнога конкурсу рукапісаў імя Цёткі, увайшлі выбраныя і новыя вершы. Папярэднічалі ёй зборнікі «Пірава тэхніка» (2006) і «Дым без агню» (2010), якія пабачылі свет дзякуючы фінансавай падтрымцы з боку сяброў паэта — галандскага бізнесмена Кардыуса Круйсберга і айчыннага прадпрымальніка Сяргея Трошкі.

К. Круйсберг зазначыў: толькі ўнёсак у духоўныя каштоўнасці, у тым ліку і ў кнігі сучаснікаў, робіць нас багатымі энергетычна, што немагчыма параўнаць ні з якім матэрыяльным багаццем. Гэтую ж думку падтрымаў і С. Трошка, які да таго ж прадставіў на суд слухачоў і ўласны верш.

— Мая асноўная задача цяпер, — падкрэсліў Дзмітрый Радзівончык, — каб у новай кнізе, акрамя аўтара, з'явіліся і чытачы. Думаецца, задача гэтая ўжо выканана: шмат хто з удзельнікаў вечарыны чытаў у «вольны мікрафон» вершы Дзмітрыя Радзівончыка. Сам паэт дэкламаваў свае вершы даволі артыстычна:

*Горизонт дорогой журавлиной*
*Устремится в пропасть серых дней.*
*Жизнь — пересеченье узких линий;*
*Плоскость чувств натянута над ней…*

Пабачылі гледачы і фрагмент праекта «*Coda*. Поэт и композитор», выкананага Д. Радзівончыкам у суаўтарстве з гродзенскім кампазітарам Андрэем Лабадзіным, — авангардны перформанс, які спалучае музыку і паэзію.

Лірыка Дзмітрыя Радзівончыка ўвабрала ў сябе велізарны досвед сусветнай класічнай літаратуры мінулых стагоддзяў, які не заўсёды гарманічна спалучаецца з сучаснасцю. На гэтым акцэнтавала ўвагу выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук, прафесар Таццяна Аўтуховіч, пажадаўшы свайму былому студэнту знайсці бераг «реки безбрежной».

Сам аўтар «Ракі бязмежнай» патлумачыў, што ў гэтую назву ён уклаў паняцце інтэлектуальнага патэнцыялу. Галоўнае, каб паэтычныя думкі былі скіраваныя ў стваральнае рэчышча. Тут дапаможа і музыка — адвечная спадарожніца паэзіі. У пацвярджэнне таму на вечарыне быў паказаны відэафільм, агучаны песнямі Радзівончыка на англійскай мове ў яго ж выкананні. Дзве песні на словы Дзмітрыя Радзівончыка выканаў кампазітар і спявак Аляксандр Закрэўскі.

Актыўны ўдзел у паэтычнай вечарыне ўзялі студэнты Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, навучэнцы Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, а таксама сябры Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ, гарадскога клуба творчай інтэлігенцыі «Грані» ды літаб'яднання «Надзея».

**Тамара МАЗУР**

*Унікальны праект*

# Жанчына, якая сышла з нябёсаў

**Прэзентацыя кнігі «Аляксей Кузьміч. Творца ўзвышаных Мадоннаў» прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Зборнік эсэ, успамінаў, публікацый і адкрыццяў падрыхтаваны сёлета выдавецтвам «Мастацкая літаратура» да 70-годдзя мастака.**

Яго нездарма называюць акрылёным Мадоннамі, бо ў сваім жывапісе майстар тонка, беражліва, але пераканаўча раскрывае вобраз жанчыны-маці, аналізуе духоўны стан людзей, іх здольнасць на подзвіг і самаахвярнасць.

Аляксей Кузьміч аддае перавагу партрэтам, умела абыходзіцца з гэтым неверагодна складаным і супярэчлівым жанрам. Здавалася б, жаночыя вобразы ў мастацтве — тэма вечная і не новая. Вельмі складана сярод разнастайнасці ўжо створаных карцін вылучыцца, адкрыць нешта сваё. Але ў яго атрымалася! У творах Аляксея Кузьміча адчуваецца асаблівая энергетыка, ад іх ідзе містычнае святло — варта толькі зірнуць у вочы той жа Еўфрасінні Полацкай…

У кнігу ўвайшло мноства ўнікальных фотаздымкаў з сямейнага архіва аўтара і музейных збораў, а таксама — каля ста каляровых рэпрадукцый, многія з якіх публікуюцца ўпершыню. Выданне з'явілася дзякуючы сыну мастака Аляксею Кузьмічу-малодшаму.

Кожная з гераінь на палотнах мастака — гэта ўвасабленне ўсёй краіны, Беларусі, дзе, дарэчы, пра прыгажосць жанчын нездарма ходзяць легенды. Аляксей




Кузьміч стварыў больш як семсот палотнаў, што ўвасабляюць як гістарычных асоб, так і простых жыхарак («Мінская Мадонна», «Даная», «Дзяўчына і кветкі», «Наташа»). Ён праслаўляў боскую місію жанчыны на зямлі, шчыра захапляўся яе дабрынёй, сілай і здольнасцю дарыць жыццё. «Слёзы маці — гэта як кроплі чыстага дажджу, падаючы на добрую глебу, даюць жыццё, чысцячы яе ад бруду, пылу і спёкі», — казаў творца.

З кнігі можна даведацца, што музай аўтара стала яго жонка, Інэса Іосіфаўна, да вобраза якой ён звяртаўся не адзіны раз у такіх творах, як «Мадонна ў аблоках», «Сям'я», «Чысціня», «Шчырасць», «Ціхая радасць».

Народны артыст Беларусі, рэжысёр Барыс Луцэнка падчас прэзентацыі зазначыў, што лікі жанчын на палотнах Аляксея Кузьміча нібыта кажуць нам, гледачам: «Спыніцеся ў эгаізме, нянавісці і вайне! Звярніцеся да сваёй душы». Па яго словах, мастак ніколі не ўмеў быць абыякавым да ўсяго, што адбывалася побач з ім. «Ён хацеў змяніць жыццё сваімі Мадоннамі, падарыць людзям надзею!» — дадаў Барыс Луцэнка.

Нябачная прысутнасць майстра адчувалася на прэзентацыі дзякуючы яго родным і сябрам, калегам, настаўнікам і аднакурснікам. Людзі, якія ведалі Аляксея Васільевіча, дзяліліся ўспамінамі пра розныя перыяды яго жыцця. Тое ж самае можна знайсці і ў кнізе. Але акрамя ўражанняў пад вокладкай змясціліся і асабістыя развагі, запіскі мастака, інтэрв'ю з ім.

Кніга «Аляксей Кузьміч. Творца ўзвышаных Мадоннаў» — гэта, па сутнасці, першая спроба цалкам зразумець майстра. Аўтарам уступнага артыкула да выдання стаў пісьменнік Уладзімір Ліпскі. «Свае ўспаміны пра Аляксея Кузьміча я назваў «жыццё пасля жыцця». Ён быў па-добраму апантаным, акрыленым, сонечным і вельмі таленавітым чалавекам! Тое, што ён зрабіў для мастацтва, — гэта подзвіг», — сказаў Уладзімір Сцяпанавіч.

Пра тое, што Аляксей Кузьміч вельмі шчыры мастак, які


*Падчас прэзентацыі выступае Аляксей Кузьміч-малодшы.*

сваім энтузіязмам і воляй здолеў узрушыць і раскруціць тэму, за якую мала хто наважваўся брацца, падняў высокую духоўную планку, казаў намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў.

У жывапісе мастак уздымаў многія тэмы, па-філасофску асэнсоўваючы існаванне чалавека на Зямлі, яго прызначэнне і абавязак — перад самім сабой, блізкімі, чалавецтвам. Пэндзлю майстра належаць і партрэты вядомых дзеячаў беларускай і рускай культур: народных артыстаў, акцёраў, скульптараў, рэжысёраў. Аляксей Кузьміч добра вядомы і за межамі радзімы. Творца з'яўляўся актыўным грамадскім і культурным дзеячам, акадэмікам Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы.

Напрыканцы прэзентацыі адбылося ўрачыстае гашэнне канверта, выпушчанага РУП «Белпошта» да юбілею мастака. На верхняй яго частцы — адзін з самых вядомых твораў — «Плач Еўфрасінні Полацкай» побач з фотаздымкам аўтара.

«Кожны народ стварыў свой ідэал жанчыны. У егіпцян — царыца Неферціці, у грэкаў — багіня прыгажосці Афрадыта, багіня мудрасці Афіна, багіня Месяца і палявання — Артэміда. Краіны, якія прынялі хрысціянства, у тым ліку і Беларусь, на многія стагоддзі абралі для пакланення Багародзіцу Марыю», — гаворыцца ў прадмове да кнігі. Аляксей Кузьміч, як і Рафаэль, Бацічэлі, Рубенс, Рэмбрант, Рэнуар, ствараў аблічны нашых, родных Мадонн, — а гэта вялікая з'ява для ўсёй беларускай культуры.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# Краіны розныя, вера — адна

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбыўся «круглы стол» «Альбом «*Terra Mariana*» і беларуска-латвійскія сувязі». Арганізатары мерапрыемства — Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Таксама ўдзел у «круглым стале» ўзялі даследчыкі з Беларусі і Літвы, прадстаўнікі устаноў культуры, навукі, адукацыі і грамадскіх аб'яднанняў. Ганаровымі гасцямі мерапрыемства сталі дырэктар Латвійскай нацыянальнай бібліятэкі Андрыс Вілкс, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі мастацтваў Латвійскай акадэміі майстэрстваў, доктар мастацтваў Рута Камінска, асацыіраваны прафесар Даўгаўпілскага ўніверсітэта, доктар гісторыі Хенрыхс Сомс.


*Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі дзякуе латвійскім гасцям за падарунак.*

«Круглы стол» быў прысвечаны беларуска-латвійскім узаемасувязям і альбому «*Terra Mariana*», які стаў унікальнай з'явай у гісторыі Латвіі. Ён распавядае пра распаўсюджанне і традыцыі хрысціянскай веры на землях Балтыі ў перыяд з XII па канец XIX стагоддзя. Назва альбома перакладаецца як «Зямля Марыі» — так было прынята называць сярэднявечную Лівонію, у склад якой уваходзілі сучасныя латвійскія і эстонскія землі. Арыгінал альбома быў надрукаваны ў Рызе ў 1888 годзе ў адзіным экзэмпляры і падараваны Папу Рымскаму Льву XIII. На 70 пергаментных аркушах прадстаўлены багаты візуальны і тэкставы матэрыял пра лівонскія замкі, цэрквы, гербы старадаўніх шляхетных родаў, гістарычных асоб і інш. Сёння альбом «*Terra Mariana*» захоўваецца ў Ватыканскай апостальскай бібліятэцы.

У межах «круглага стала» шырокай публіцы была прадстаўлена бібліяграфічная рэдкасць — факсімільнае выданне гістарычнага альбома, якое было падрыхтавана ў 2014 годзе. Як адзначыў у сваім прывітальным слове Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Мартыньш Вірсіс, беларусаў і латышоў аб'ядноўвае вартая павагі якасць — удумлівыя, беражлівыя адносіны да сваіх каранёў.

Пра досвед беларускіх даследчыкаў па факсімільным выданні рукапісных і друкаваных кніжных помнікаў у сваім дакладзе «Дзейнасць Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па факсімільным узнаўленні помнікаў кніжнай спадчыны» распавёў намеснік дырэктара бібліятэкі па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці, кандыдат культуралогіі Аляксандр Суша. З дакладамі таксама выступілі кандыдат мастацтвазнаўства Валянціна Малюшына («Мастацкае абліčча альбома «*Terra Mariana*»: погляд з Беларусі») і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч («Дакументальная спадчына Беларусі і Латвіі ў кантэксце ўсеагульнай і рэгіянальнай гісторыі»).



*Факсімільнае выданне альбома «Terra Mariana».*

Дырэктар Латвійскай нацыянальнай бібліятэкі Андрыс Вілкс перадаў у дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі факсімільнае выданне альбома «*Terra Mariana*». Прымаючы падарунак, дырэктар бібліятэкі Раман Матульскі падзякаваў латвійскім гасцям, адзначыў, што сяброўскія сувязі дзвюх нацыянальных бібліятэк будуць узмацняцца, і нагадаў, што ініцыятарам стварэння гэтага ўнікальнага альбома была Марыя Пшэздзецкая (1823 — 1890) з роду Тызенгаўзаў, уладальніца мястэчка Паставы — цяпер гэта раённы цэнтр Віцебскай вобласці.

**Дар'я ЛАТЫШАВА,**
**фота аўтара**

# Следства вядзе рамантык

**Удалае сумяшчэнне рэальнасці і выдумкі — зборнік аповесцей Георгія Захарава «Чорнае і белае», які выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда». Пад вокладкай змясціліся два творы, што складаюць адзіны цыкл, падзелены на дзве часткі — каб падкрэсліць прамежак часу паміж дзеяннямі.**

У цэнтры сюжэта — малады следчы, а затым пракурор Вадзім Якаўлеў. Яго можна смела назваць змагаром за справядлівасць: у яго асобе дзіўным чынам спалучаюцца наіўнасць і здольнасць хітрыць. Апошні «бонус», праўда, ён выкарыстоўвае ў асноўным у асабістым жыцці.




Не сказаць, што кніга блізкая да шэдэўра пра Шэрлака Холмса, але тым, хто любіць дэтэктывы, спадабаецца. Многае ў выданні — адбітак жыццёвага досведу аўтара, які больш як трыццаць гадоў працаваў у органах пракуратуры. Тут і жорсткі крымінал, і звычайныя хуліганствы — усе злачынствы Георгій Захараў разбірае з пачуццём і толкам.

Панарама, на фоне якой разгортваецца дзеянне, — савецкія гарады, у прыватнасці Мінск 1970 — 80-х гадоў, час мадэрнізацыі, абнаўлення і прагрэсу, але разам з тым трывогі і прадчуванняў. У сэрцы героя, зрэшты, не адбываецца асаблівых рэвалюцый. Ён, наадварот, знаходзіць для сябе нейкую кропку статычнасці, той самы прыпынак, да якога ідзе усё жыццё...

Для пачатку чытачам разам з героем трэба разблытаць не адну складаную справу, пазнаёміцца з цэлым натоўпам каларытных персанажаў (хоць карціны пішы!), павучыцца на памылках і аб'ездзіць палову Савецкага Саюза.

Дык вось, пра персанажаў. Простыя быццам бы людзі, але ў кожным бачыцца знаёмая часцінка: ад суседа, сябра, першай настаўніцы ў школе, прадаўца ў краме ці веласіпедыста, які ледзь не збіў з ног. Прастадушнасць і бязладнасць, сур'ёзнасць і гуманнасць, хітрасць і ашчаднасць... У кожным персанажы аўтар імкнецца прыкмеціць дамінуючую рысу, каб зрабіць вобраз больш яркім. Тым не менш ніхто з герояў не ўразаецца ў памяць надоўга — яны толькі праходзяць міма шэрагам вобразаў, адзін раз загарэўшыся ў свядомасці. Чаму? Напэўна, каб не адцягваць увагі ад галоўнага героя.

Сярод іншых — Нічыпар Аляксеевіч Палкін, старэйшы саветнік юстыцыі, які ходзіць у заношаным палкоўніцкім мундзіры і штанах, перавязаных звычайнай бялізнавай вяроўкай, а таксама знаходзіцца ў стане пастаяннага падпітку. Пракурор раёна — выпешчаны і малады Мікалай Пятровіч Шалімаў, які своечасова зрабіў выбар жонкі і… кар'еру. Міхаіл Каўбасаў — старшакурснік юрфака і сябар Якаўлева, падобны характарам і знешнасцю да доктара Ватсана…

> *У кожным персанажы бачыцца знаёмая часцінка: ад суседа, сябра, першай настаўніцы ў школе, прадаўца ў краме ці веласіпедыста, які ледзь не збіў з ног. Прастадушнасць і бязладнасць, сур'ёзнасць і гуманнасць, хітрасць і ашчаднасць...*

Жаночых вобразаў у кнізе шмат, але ўсе яны, здаецца, не вельмі значныя. У Якаўлева столькі знаёмстваў, раманаў і захапленняў, што галава ідзе кругам: не ўкладаецца, як сарамлівы, нерашучы ў справах кахання чалавек, які не ўмее і пачуцці выказаць толкам, умудраецца мець зносіны з такой колькасцю дзяўчат!

Тым не менш рамантыку свайго часу пісьменнік перадаў у насычаных фарбах, асабліва калі размова ішла пра падарожжа. Бо ў савецкі час на мора, напрыклад, можна было ездзіць па некалькі разоў на год, прычым простым студэнтам.

Першая вялікая вандроўка маладога следчага — па Алазанскай даліне Грузіі. Тэмперамент тбіліскага мора, чароўная Рыта, насычаныя віны, старадаўнія вулачкі, дзе прадаюць гарачыя піражкі з вострай мясной начынкай і разліваюць «Баржомі» з сіропамі… Гукі, водары, галасы — усё гэта адчуваецца скрозь старонкі, нягледзячы на прасты, не перагружаны метафарамі стыль расповеду.

Душэўны ўздым і змяшанне пачуццяў — тое, што кожны раз адчувае герой, вяртаючыся з чарговай паездкі-адпачынку ў шэраг працоўных будняў. Шмат у чым яго ратуе сяброўства. Яму, дарэчы, Георгій Захараў надае вялікую ўвагу, распавядаючы, што такое сапраўдная падтрымка блізкіх людзей. Дружба ў савецкі час, насамрэч, была куды мацнейшай.

Захоплівае кругаварот злачынстваў, якія даводзіцца разблытваць следчаму, іх незвычайнасць. Часам складана ўявіць, што некаторыя выпадкі мелі месца ў рэальнай практыцы! У кнізе можна сустрэцца з дзёрзкімі ўцёкамі злачынцаў і рабаваннямі, з бандыцкімі кланамі, таямнічым і крывавым забойствам у нумары гатэля... Трапляюцца і кур'ёзныя, смешныя выпадкі. Такое чаргаванне настрояў надае кнізе асаблівую вастрыню, яшчэ больш набліжаючы яе да жанру дэтэктыва.

Георгій Захараў не забываецца і па-філасофску паразважаць, складаючы партрэт грамадства таго часу, аналізуе псіхалогію людзей, якія апынуліся на мяжы пераломнага моманту гісторыі... Што пісьменнік даносіць нам? Каханне — вось што ратуе людзей ва ўсе эпохі і пры любых абставінах.

**Марыя ВОЙЦІК**



*На паліцы*

# Лісты. Гарады. Ты…

**Вядомая паэтка, блізкая сяброўка Ніны Мацяш Святлана Варонік напісала ды апублікавала новую кнігу вершаў. Зборнік «Маміна дрэва» не так даўно пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда».**




Вершы Святланы Варонік можна параўнаць з карункамі. Вось адзін твор, які вызначае асноўны ўзор, матыў палатна кнігі, а астатнія, ніточка за ніточкай, далучаюцца да яго, утвараюць мудрагелістыя сплаценні ці, наадварот, зусім простыя камбінацыі вобразаў ды пачуццяў. Чытачу падаецца, што па асноўным вершы можна лёгка адгадаць тэму і матыў наступных, дастаткова толькі разблытаць адзін вузельчык — і за ім пацягнуцца астатнія. Але не ўсё так проста. У ліку стылістычна аднолькавых вершаў-імпрэсій раз-пораз трапляюцца сапраўды цікавыя думкі, якія прымушаюць спыніцца, задумацца, перачытаць.

Святлана Варонік здольная на мудрыя адкрыцці, высновы, развагі. Адзін з яе вершаў я параўнала б з творам вядомай амерыканскай паэткі Эмілі Дыкінсан. Вось што яна пісала ў сярэдзіне XIX ст.:

*Мой ліст — да Свету, хоць пісьма*
*Свет не напіша мне.*
*Яго Прырода шле сама,*
*І ў кожнай навіне*

*Спагада й моц адпраўніка.*
*Дзеля яго рукі*
*І вы спагадлівa мяне*
*Судзіце, землякі.*

(Пераклад з англійскай мовы Андрэя Хадановіча.)

А вось як адкрываецца кніга «Маміна дрэва» Святланы Варонік:

*Пішу табе лісты*
*так часта-адзінока.*
*Пяшчота сагрэе*
*паштовай скрынкі дні.*
*Не расчытаеш рук*
*Маіх трывожных дотык.*
*Толькі…*
*пішу табе лісты…*
*у Свет…*

Відаць, што беларуская паэтка наследуе традыцыі Эмілі Дыкінсан. Гэта выяўляецца не толькі ў вобразнасці, але і ў лаканічнасці формы. Так, вершы Святланы Варонік — кароткія, складаюцца толькі з некалькіх радкоў. Але і тут можна сканцэнтраваць неверагодна глыбокую думку, шчырае пачуццё, роздум, заклапочанасць. Піша аўтарка пра страты і расстанні, вернасць і здраду, памяць і каханне. Піша пра маму, Бога, нябёсы, вёску, продкаў, пра гарады, масты, дажджы, снег…

Калі быць больш дакладнай, то Святлана Варонік піша не пра маму, а пра Маму. Яе вобраз пашыраецца, павялічваецца на ўвесь сусвет, становіцца цэнтрам памяці, успамінаў. Таму і аздабленне кнігі такое светлае і вясновае, чыстае, як маміна пяшчотная ўсмешка. Менавіта да Мамы лірычная гераіня звяртаецца ў хвіліны журбы, па ёй сумуе, ёй спавядаецца. Памяці пра самага роднага і блізкага чалавека яна баіцца здрадзіць, баіцца разгубіць каштоўныя ўспаміны, разбіць іх на маленькія аскепкі. А яшчэ яна сумуе па вёсцы, па роднай хаце і па сваяках, якія ўжо знайшлі прытулак на могілках.

Думка паэткі то рухаецца па спіралі, паўтараючы асноўныя вобразы ды тэмы, то, наадварот, робіць нечаканы паварот і засяроджваецца на незвычайнай выснове. Таму маленькі зборнічак, аб'ёмам менш сотні старонак, які змесціцца ў кішэні ці дамскай сумачцы, адразу агораць не атрымаецца. Гэтыя маленькія вершыкі-шкельцы прымушаюць думаць, спыняюць хуткую «хаду» чытання, нібыта просяць: «Прыгледзься яшчэ раз…». І ты спыняешся, задумваешся, перачытваеш. Бачыш падабенства са сваім светаўспрыманнем, пагаджаешся з лірычнай гераіняй ці, наадварот, абураешся і ў думках спрачаешся з аўтаркай.

Але ў любым выпадку — адклаўшы кнігу на некаторы час ці нават прачытаўшы яе, можна быць упэўненым: да яе захочацца вярнуцца яшчэ раз. Перагартаць, перадумаць, адчуць. І кожнае новае прачытанне гэтых кароценькіх твораў абавязкова адкрые новыя грані паэтычнага майстэрства аўтаркі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Маладзічок*

# Чытанка для падлеткаў

**Беларускія аўтары здаўна дбалі пра выхаванне будучых пакаленняў праз мастацкае слова. Гісторыя друкаванай кнігі для дзяцей налічвае амаль пяцьсот гадоў. Як нагадала дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, сам Францыск Скарына рыхтаваў пераклады біблейскіх кніг з разлікам на юных чытачоў — пра што сведчыць, напрыклад, прадмова да «Псалтыра».**

Да стварэння беларускай дзіцячай літаратуры спрычыніліся многія пісьменнікі, у тым ліку Максім Багдановіч — аўтар паэмы «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Твор быў апублікаваны на старонках «Нашай Нівы» ў 1915 годзе. Славуты паэт працаваў і над беларускім букваром, які, на жаль, быў страчаны. А выстаўка па казцы сустракае сёння наведвальнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. У сценах гэтай установы адбыўся і «круглы стол» на тэму «Праблемы і перспектывы беларускай дзіцячай літаратуры».

Удзельнікамі абмеркавання сталі людзі розных прафесій, якія маюць дачыненне да беларускай дзіцячай кнігі. Цікавыя водгукі выклікаў расповед бібліятэкара Ганны Гузавай, прысвечаны падлеткавай літаратуры. Да звыклага пераліку ўлюбёных падлеткамі пісьменнікаў (Алесь Бадак, Валерый Гапееў, Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, Яўген Хвалей) бібліятэкар дадала імя Уладзіміра Гаўрыловіча — аўтара кнігі «Анёлак мой, анёлак...». На думку Г. Гузавай, якасных твораў для патрабавальных сучасных падлеткаў сёння не хапае. Бібліятэкары могуць прапанаваць не больш за некалькі дзясяткаў кніг.

Пісьменніца, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Аксана Спрынчан, мае іншую думку: адмысловая «падлеткавая» літаратура не вельмі патрэбная, бо ў 12 — 14 гадоў ужо можна брацца за кнігі «для дарослых». З аднаго боку, такое меркаванне мае грунт: у падлеткавым узросце многія адкрываюць для сябе Уладзіміра Караткевіча, знаёмяцца з гістарычнай прозай. Разам з тым жыццё сучаснай моладзі таксама мусіць адлюстроўвацца ў нацыянальнай літаратуры, а чытачу-падлетку заўсёды цікава патрапіць у твор, персанаж якога мае суадносны ўзрост, адпаведныя памкненні і праблемы. Як адзначыла пісьменніца Людміла Рублеўская, у беларускай літаратуры ёсць нямала незапоўненых нішаў: запатрабаваным жанрам могуць стаць, напрыклад, дэтэктывы для дзяцей.

Асобная размова тычылася перакладу дзіцячай літаратуры на беларускую мову. Безумоўна, знаходзяцца чытачы, якія з задавальненнем чытаюць па-беларуску славутыя творы сусветнай класікі. Аднак вялікія тыражы разыходзяцца доўга, і нават выдатны прамоўшэн не дапамагае хутка рэалізаваць выданне.

Асаблівасцю «круглага стала» ў музеі Максіма Багдановіча стала асаблівая ўвага да тэмы афармлення кніг. Пра творчы досвед распавяла мастачка Аксана Аракчэева, якая афармляе часопісы, падручнікі і іншыя выданні для дзяцей: «Ілюстраванне кнігі — гэта магчымасць трапіць у іншае жыццё, дадумаць тэкст, стварыць паралельную гісторыю, намаляваць сваю казку. Разам з тым гэта адказная справа, бо мастаку патрэбна асаблівая пільнасць да дэталяў у тэксце — каб намаляваны персанаж быў апрануты дакладна так, як апісаў яго аўтар, меў валасы альбо вочы патрэбнага колеру...»

Па словах Аксаны Спрынчан, за афармленне кніг усё часцей бяруцца маладыя мастакі: яны працуюць з імпэтам, бо хочуць паказаць свае здольнасці.

«Мы прызвычаіліся да думкі, што кніга для дзяцей павінна быць каляровай і яркай. Малюнкі прываблівають, але не прывучаюць да чытання, — заўважыла Аксана Вадзімаўна. — Кнігі з чорна-белымі малюнкамі альбо зусім без малюнкаў развіваюць уяўленне і абавязкова павінны быць у хатняй бібліятэцы».

Вядучая «круглага стала» Юлія Мацук выказала спадзяванне, што абмеркаванне праблем дзіцячай літаратуры паспрыяе іх вырашэнню. Падставы для аптымізму ёсць: падчас сустрэчы была анансавана новая прэмія па літаратуры для дзяцей і падлеткаў, патронам якой абвешчана Цётка. Прэмія будзе ўручацца не толькі пісьменніку — аўтару лепшай кнігі, але і мастаку, які працаваў над самым прыгожым і адметным выданнем.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Людміла Рублеўская, пісьменніца:**

— У нашай краіне дзіцячая літаратура заўсёды была «запаведнікам халтуры». Некаторыя аўтары нібыта меркавалі, што дзеці — чытачы непатрабавальныя, ім можна запіхнуць любую казку пра вавёрак ды зайчыкаў... А насамрэч ствараць дзіцячую літаратуру больш складана, чым дарослую, і яна мае значна большую вагу.

Класікі нашай «дарослай» літаратуры часта браліся за стварэнне буквароў, чытанак, хрэстаматый, бо ў гістарычным кантэксце заўсёды было важна, якую кнігу дзіця возьме ў рукі, ці знойдзецца для яго цікавае выданне на беларускай мове.

Сёння ў свеце існуе шмат якаснай дзіцячай літаратуры, і скласці канкурэнцыю не так проста. Але беларуская кніга павінна выканаць сваю ролю і прыцягнуць маленькага чытача да нацыянальнай культурнай прасторы.

**Ганна Гузава, вядучы бібліятэкар абанемента дзіцячай бібліятэкі № 5 г. Мінска:**

— Мы стараемся ўсё рабіць, каб нашы чытачы былі задаволеныя. І вельмі часта даводзіцца змагацца са стэрэатыпамі. Маленькі чытач звычайна кажа:

— Ой, я не хочу брать белорусскую книжку, я там ничего не понимаю.

Пытаюся:

— А дзе мы жывём?

— У Беларусі...

Пачынаем абмяркоўваць тое, што ў большасці краін людзі размаўляюць на нацыянальных мовах. Значыць, і мы павінны размаўляць па-беларуску. Пасля такога ўступу паказваю кнігі на беларускай мове, якія ёсць у нашай бібліятэцы. Вельмі часта маленькія чытачы застаюцца задаволеныя.

Іншая справа — падлеткавы ўзрост. Пытаюся ў дачкі і яе сяброў: «Якую кніжку вы хацелі б прачытаць на беларускай мове?» «Нам не так важна, на якой мове напісаны твор, — адказваюць яны і просяць: — Прынясі з працы такую кнігу, каб мы разгарнулі першую старонку і не маглі адарвацца». Для падлеткаў 14 — 15 гадоў гэта не так проста зрабіць. Здараецца, дзеці просяць кнігу жахаў на беларускай мове. Альбо гумарыстычныя творы, па якіх можна напісаць рэферат. Такіх кніг мала... Бацькі пытаюцца: «Чаму ў вас няма ніводнай беларускай кнігі на духоўную тэматыку? Альбо кнігі, скіраванай супраць наркотыкаў?» Свабодных тэм шмат.

Часам чытачы-падлеткі ўздыхаюць: «Беларуская літаратура — гэта такая нудота... Там пра вёску, бедных сялян і пра карову». Я раблю выгляд, што не чую. Прапаную «Сэрца мармуровага анёла» — і гэтая кніга адразу выклікае здзіўленне і цікавасць да аўтара.

# Першая сустрэча з мастацтвам

**Сара Лундберг, вядомая шведская дзіцячая пісьменніца і ілюстратарка, правяла адкрыты майстар-клас для аўтараў і ілюстратараў дзіцячых кніжак у Літаратурным музеі Петруся Броўкі.**



Госця са Швецыі пазнаёміла прысутных са сваім творчым досведам, пакручастымі этапамі мастацкага і пісьменніцкага шляху да поспеху. Пасля прывітальнага слова і аповеду пра сябе Сара Лундберг прадставіла даволі шырокі агляд сучаснай шведскай кніжнай графікі, а менавіта — работ некалькіх дзясяткаў ілюстратараў дзіцячай кнігі. Для тых, хто не трапіў на майстар-клас, — кароткі аповед пра Сару Лундберг ад першай асобы.




— Я пачынала творчую дзейнасць як мастачка, вучылася гэтаму прафесійна ў ЗША. Калі вярнулася ў Стакгольм, стала працаваць у тэатры, але не кідала маляваць, яшчэ і танчыла. Але ў цэнтры маёй дзейнасці было апавяданне, якое я перадавала праз розныя віды мастацтва. Потым пачала займацца ілюстрацыяй дзіцячых кніг. Перад тым як пачала пісаць сама, я праілюстравала каля 30 выданняў, якія і натхнілі на стварэнне серыі кніг пра Віту і Эйвінда. Для мяне як для мастачкі было цікава, чым малюнак у кнізе прынцыпова адрозніваецца ад карціны, якая вісіць у музеі ці мастацкай галерэі. І я зразумела: ілюстрацыі ў дзіцячай кнізе — першая сустрэча маленькага чытача з мастацтвам.




Першы стакгольмскі заказ на ілюстрацыі да кнігі песень падштурхнуў мяне да працы ў графіцы. Разаслаўшы свае творы па выдавецтвах, я паўгода сядзела без замоў, пакуль буйное шведскае выдавецтва, якое друкавала кнігі Астрыд Ліндгрэн, не пагадзілася са мной супрацоўнічаць — аднак толькі ў галіне ілюстравання навукова-папулярнай кнігі для дзяцей: энцыклапедый, даведнікаў і інш.

Рэдактар выдавецтва ва ўсім мне дапамагаў (сфера была для мяне абсалютна новая), перш за ўсё тым, што даваў поўную свабоду. Таму мае ілюстрацыі для дзіцячага нон-фікшн часам мелі падабенства з сюррэалістычнымі малюнкамі альбо стылізаваліся пад тую эпоху, якой была прысвечаная чарговая энцыклапедыя: Сярэднявеччу, Рэнесансу. Адначасова з навукова-папулярнай літаратурай я праілюстравала некалькі дзясяткаў кніг з кардоннымі старонкамі для самых маленькіх дзяцей — якія толькі вучацца адрозніваць прадметы, з'явы і запамінаць іх назвы.

Прыкладна дзесяць гадоў таму нарэшце стала займацца ілюстраваннем мастацкай літаратуры. Спачатку малявала для выданняў іншых аўтараў, але ў думках ужо нараджалася і ўласная гераіня — Віта Белая Крэска. На сёння выдадзена чатыры кніжкі пра Віту і яе сябра Эйвінда.

Зараз я жыву ў Стакгольме і працую ва ўласнай майстэрні, дзе часта змяняю віды дзейнасці: альбо малюю, альбо пішу. Часам арганізоўваю незвычайныя выстаўкі паводле кніг пра Віту Белую Крэску, і ў гэтым мне дапамагаюць дзеці: мы разам чытаем творы, абмяркоўваем іх, а пасля ствараем свой казачны свет — я малюю дарогу, а дзеткі робяць маленькія домікі. Нядаўна адбылася падобная выстаўка, у якой удзельнічала ажно 200 дзяцей, і праходзіла яна ў адной з цэркваў Стакгольма.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Янка Гаўрыс — майстар аднаго твора

**Чалавек, пра якога пойдзе гаворка, у свой час быў вядомай асобай у Віцебску. У тым Віцебску, які ў першыя гады савецкай улады стаў цэнтрам мастацкага жыцця Беларусі. Тут жылі творцы, чые імёны набылі сусветную вядомасць, — Казімір Малевіч, Марк Шагал, Юдаль Пэн. Побач з імі працаваў Янка Гаўрыс. Але ў адрозненне ад вышэйназваных дзеячаў яго прозвішча згадае нават не кожны мастацтвазнаўца. Так сталася, што гэты руплівец на ніве беларушчыны і таленавіты мастак застаўся ў гісторыі амаль забытым і практычна невядомым на радзіме аўтарам аднаго твора.**

## ШЛЯХ ДА ВІЦЕБСКА

Іван Трафімавіч Гаўрыс з'явіўся на свет 14 снежня 1890 г. у вёсцы Кухчыцы Клецкай воласці Слуцкага павета Мінскай губерні. Гэта была нічым не адметная вёска. Паводле Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г., у ёй налічвалася 80 двароў і 504 жыхары. Існаваў хлебазапасны магазін: так называўся свіран, куды сяляне здавалі лішкі збожжа, якія прызначаліся для забеспячэння хлебам на выпадак неўраджаю. Таксама ў Кухчыцах знаходзіўся панскі маёнтак з 38 насельнікамі. Вось і ўсё. Да 1911 г. у вёсцы нават не было школы. Так што пачатковую адукацыю Янка хучэй за ўсё атрымаў у суседніх Дунайчыцах, дзе пры Пакроўскай царкве за чатыры гады да яго нараджэння адкрылася школа граматы.

Потым была Нясвіжская настаўніцкая семінарыя — найбліжэйшая на той час сярэдняя навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для пачатковых школ. Каб паступіць сюды, трэба было мець узрост не менш за 16 гадоў, а за плячыма — народнае вучылішча і падрыхтоўчы клас семінарыі. Скончыўшы семінарыю, Янка Гаўрыс працаваў настаўнікам у Слуцкім павеце ў народных вучылішчах Замосця і Сіняўкі. У перыяд вучобы і працы далучыўся да беларускага адраджэнскага руху. Пакуль што — на ўзроўні цікавасці да літаратуры і перыёдыкі.

У 1912 г. малады выкладчык паступіў у Віленскі настаўніцкі інстытут, але скончыць яго не паспеў. Пачалася Першая сусветная вайна, і ён быў мабілізаваны ў войска. Лёс склаўся так, што замест акопаў трапіў у штаб, дзе даслужыўся да афіцэрскага чына. Рэвалюцыйныя падзеі заспелі яго на пасадзе інтэнданта XVI армейскага корпуса ў Віцебску. У 1917 г. гэты горад быў адным з цэнтраў вайсковага руху. Тут адбыўся з'езд беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага фронту, фарміраваўся беларускі полк. У апублікаваных матэрыялах пра тыя падзеі імя Гаўрыса не згадваецца, але асабіста мне не верыцца, што ён мог заставацца ўбаку. Хучэй за ўсё знаходзіўся на другасных ролях і таму не трапіў у поле зроку даследчыкаў.

Восенню 1918 г. Янка Гаўрыс служыў у Віцебскім губернскім ваенным камісарыяце, але, відавочна, не меў прыхільнасці да службы. Таму неўзабаве падаў прашэнне аб залічэнні ў настаўніцкі інстытут. Вучыўся і адначасова працаваў у гарадскіх школах. У гэты ж час пачался яго захапленне жывапісам. Былы афіцэр паступіў у мастацкае вучылішча, дзе меў магчымасць сустракацца з Мсціславам Дабужынскім і Маркам Шагалам. У тагачасным мастацтве ішла барацьба паміж прыхільнікамі традыцыйнай манеры жывапісу і так званымі «левымі», якія абвясцілі рэалізм састарэлай панска-буржуазнай школай і заклікалі да поўнага яго адмаўлення. Пазней Гаўрыс узгадваў: *«Віцебск, як ніводзін з правінцыяльных гарадоў Савецкага Саюзу, перажыў найвышэйшую напружанасць у барацьбе розных напрамкаў у мастацтве. Спрэчкі, дыспуты вырываліся з вузкіх колаў мастакоў у шырокія грамадскія масы. Запал правадыроў уцягваў грамаду ў той ці іншы бок. Больш-менш свядомая частка грамадзянства не магла быць пасіўнай, бо кожны напрамак імкнуўся даказаць сваю ідэалагічную правату, памылкі супраціўніка і разам з тым патрабаваў прызнання пралетарскага грамадзянства на права свайго існавання. Усе выяўленні наватарства заходне-еўрапейскага і расійскага пачатку 20 веку знайшлі тут самы разнастайны крытычны разгляд».* У студзені 1920 г. у Віцебску ўтварылася група мастакоў, якая называлася «УНОВИС» («Утвердители нового искусства»). Лідарам суполкі быў Казімір Малевіч, а яе эмблемай — славуты чорны квадрат. Сярод прыхільнікаў новага мастацтва папулярнымі былі такія напрамкі, як супрэматызм і кубізм. У склад аб'яднання ўвайшоў і Янка Гаўрыс, які заняў пасаду старшыні творчага камітэта. Цікава, што пры гэтым ён нават не меў завершанай мастацкай адукацыі.

> *Янка Гаўрыс не абвяшчаў айчынную культуру другаснай ці непаўнавартаснай. Наадварот, заклікаў вывучаць жывапіс ва ўсіх яго праяўленнях пачынаючы з дахрысціянскіх часоў. Перасцерагаў ад празмернага захаплення і капіравання сялянскага арнаменту, называючы «запазычанне ўкрасавання ў сялянак» творакрадствам.*

## НА ХВАЛЯХ АДРАДЖЭННЯ

Работы віцебскіх майстроў прыхільна сустрэлі ў Маскве, дзе быў наладжаны вялікі мітынг, прысвечаны новым шляхам у мастацтве, а частка твораў набыта для музеяў. На хвалі поспеху К. Малевіч спрабаваў дабіцца, каб яго праграма навучання была перанесена на ўсе профільныя вучылішчы савецкай Расіі. Разам з тым віцебскія ўлады адмоўна ставіліся да «левых» мастакоў. З-за гэтага летам 1922 г. Малевіч разам з найбольш аддanymі прыхільнікамі пакінуў губернскі горад. Янка Гаўрыс застаўся і праз нейкі час нават стаў рэктарам Мастацка-практычнага інстытута. Цікава, што ўсяго за тры месяцы перад тым ён скончыў гэтую навучальную ўстанову са званнем «майстар выяўленчага мастацтва па жывапісе і малюнку». Вопыту адміністрацыйнай работы не было, аўтарытэту таксама бракавала, таму нядзіўна, што новы рэктар займаў пасаду менш за год.

Відавочна, на той момант ён ахалодаў да новых ідэй, а з часам даволі скептычна стаў ацэньваць сваё колішняе захапленне.



Фота з сайта rarus.ru.

Сябры суполкі «УНОВИС» перад ад'ездам у Маскву. Віцебск, чэрвень 1920 г. Янка Гаўрыс — першы злева.

У рабоце аб мастацкім жыцці Віцебска Гаўрыс пісаў: *«У вучнёўскія колы ідэёвая прапаганда з розных бакоў уносіла хваляванне. Ствараліся паасобныя групоўкі, дзе абмяркоўваліся задачы школы і мастацтва наогул. Для маладых, мала свядомых вучняў, якія ня мелі яшчэ свайго крытычнага погляду, такое палажэнне было вельмі шкадлівым. Яно выбівала іх з каляіны прадукцыйнай працы, уносіла ў маладыя душы хістанне, а для некаторых поўнае расчараванне ў мастацтве».* Стаўшы рэктарам, Я. Гаўрыс вярнуў у інстытут жывапісцаў традыцыйнай школы, у прыватнасці, Юдаля Пэна і яго вучняў, якіх раней увогуле не дапускалі да выкладання. Ды і сам ён неўзабаве перайшоў да звыклай манеры пісьма. У 1925 г. на Усебеларускай мастацкай выстаўцы былі прадстаўлены тры яго работы: «Кветкі (партрэт дачкі)», «Затока» і «Маёўка ў 1905 годзе», напісаныя ў стылі рэалізму.

За год да выстаўкі ў жыцці Віцебска адбылася значная падзея — большая частка былой губерні, якая дасюль знаходзілася ў складзе РСФСР, была ўз'ядната з БССР. Старажытны горад на Дзвіне зноў стаў беларускім. Але гэтую беларускасць яшчэ належала замацаваць. Патрэбны былі людзі, якія маглі пашыраць нацыянальную свядомасць сярод тысяч гараджан, былі б гатовы да штодзённай карпатлівай працы ў гэтым кірунку. У кастрычніку 1924 г. Гаўрыс звярнуўся ў аддзел адукацыі з просьбай даць яму пасаду настаўніка беларускай мовы і літаратуры. Сваю просьбу ён матываваў тым, што з'яўляецца «прыродным беларусам», які засвоіў мову яшчэ «ў родным сяле». Ва ўмовах, калі адчуваўся рэзкі недахоп настаўнікаў-беларусазнаўцаў, ён выкладаў адразу ў некалькіх школах, у тым ліку яўрэйскай і вячэрняй школе для дарослых.

У гэты час лёс падарыў яму сустрэчу з яшчэ адным выдатным дзеячам нацыянальнага адраджэння — Міколам Каспяровічам. Энергіі апошняга хапіла б на добры тузін творцаў. Намаганнямі Каспяровіча ў Віцебску пачалі праводзіцца шматлікія культурныя акцыі, было заснавана мясцовае аддзяленне літаратурнай арганізацыі «Маладняк» і акругове таварыства краязнаўства, да мастацкай секцыі якога далучыўся і Гаўрыс. Захаваўся тэкст яго выступлення «Беларускае мастацтва», агучанага на адным з пасяджэнняў. Пачынаецца ён даволі песімістычна: *«Беларускае мастацтва на працягу гістарычнага мінулага ў сваім разьвіцці мела вялікія перашкоды як з боку палітычнага, культурнага, таксама й з боку матэрыяльнага. Гэтыя перашкоды не далі яму заняць пачэснае месца на форуме сусветнага мастацтва… [Беларусь] з'яўляецца то арэнай барацьбы, забойстваў між сваімі князямі-ўдзельнікамі, то арэнай рабаваньня суседзяў — іншых славянскіх пляменняў, палякаў, маскалёў, немцаў, шведаў, французаў і інш. Усе яны агнём і мячом зьнішчалі багацце й культуру беларуса…».* Напэўна, сучасныя даследчыкі не зусім пагодзяцца з гэтымі словамі. Але іх аўтар не абвяшчае айчынную культуру другаснай ці непаўнавартаснай. Наадварот, заклікае вывучаць жывапіс ва ўсіх яго праяўленнях пачынаючы з дахрысціянскіх часоў. Перасцерагае ад празмернага захаплення і капіравання сялянскага арнаменту: *«…адраджэнне беларускага мастацтва павінна йсці трохі іншым шляхам, бо запазычанне ўкрасавання ў сялянак называецца, выбачайце, творакрадствам».* Замест гэтага прапануе выкарыстоўваць усе дасягненні сучаснага жывапісу, але *«выявіць іх у беларускіх уласцівасьцях і абставінах».* А завяршаецца даклад словамі: *«Хоць паступова мастацтва прымае інтэрнацыянальны характар, але ўсё ж такі кожная краіна, народнасць маюць свае асаблівасці…, тым болей яны выяўяцца на Беларусі ў часы адраджэньня… Кожны беларус павінен стаць адраджэнцам і зьвярнуць належную ўвагу на вывучэньне свае бацькаўшчыны».*

Гэта было сказана 20 снежня 1924 г. А праз нейкія пяць гадоў палітыка беларусізацыі пачала згортвацца. Яе актыўныя творцы трапілі пад рэпрэсіі. На пачатку 1930-х ужо нічога не нагадвала аб колішніх спрэчках, пошуках і культурнай разнастайнасці. Янку Гаўрыса спачатку не кранулі. Праўда, ён быў вымушаны адмовіцца ад беларусазнаўства і з 1932 г. выкладаў маляванне ў кінатэхнікуме.

## ЗАБЫЛІ ЦІ ПОМНЯЦЬ?

У 1937 г. пра яго згадалі. У той час у нетрах Віцебскага НКВД была сфабрыкавана справа аб дзейнасці дыверсійна-шпіёнскай «Польскай арганізацыі вайсковай», якая нібыта планавала адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза. У выніку былі арыштаваны і асуджаны 112 чалавек. Пераважна прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія нарадзіліся ці мелі сваякоў у Заходняй Беларусі. У тым ліку і Янка Гаўрыс. Пра яго далейшы лёс сказана ў даведцы УКДБ Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці: *«Паводле Пастановы Камісіі НКУС і Пракурора СССР ад 20 кастрычніка 1937 г., пратакол № 155, асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Прысуд прыведзены ў выкананне 4 лістапада 1937 г. у Віцебску. Вызначыць дакладнае месца пахавання, як і многіх іншых ахвяр рэпрэсій, няма магчымасці… 12 красавіка 1961 г. вызначэннем № 200/212 Ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі Гаўрыс І. Т. пасмяротна рэабілітаваны, аб чым паведамілі яго сыну — Гаўрыс Арнольду Іванавічу».*

Творы мастака яшчэ некалькі гадоў пасля расстрэлу вандравалі па розных выстаўках. З часам і яны згубіліся. Сёння толькі ў фондах Краснадарскага краявога мастацкага музея захоўваецца невялікая (107×70 сантыметраў) карціна «Скрыпка (кубізм)». Яна трапіла сюды ў 1925 г. з Дзяржаўнага музейнага фонду, хучэй за ўсё была набыта разам з іншымі работамі віцебскіх супрэматыстаў падчас выстаўкі ў Маскве. Твор нашага земляка знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі, дэманстраваўся на розных выстаўках, прысвечаных рускаму авангарду, — у Расіі, Галандыі, ФРГ, ЗША, Францыі, Аргенціне…

Ёсць нейкая несправядлівасць у тым, што чалавек, які называў сябе «прыродным беларусам», загінуў як «польскі шпіён», а ў гісторыю мастацтва ўвайшоў як «рускі мастак». Ці будзе яна калі-небудзь выпраўлена?

**Андрэй БЛІНЕЦ**

# Класіка па-руску



Сцэна са спектакля «Ваўкі і авечкі».

**Шэдэўры рускай класікі ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага Малога тэатра распачалі зімовы сезон культурных адкрыццяў у Мінску. Сталічныя гледачы напачатку натхняліся неўміручай філасофіяй жыцця ад дзвюх класікаў — Астроўскага і Чэхава. Два спектаклі масквічоў прайшлі на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага ў межах праекта «Вялікія гастролі 2015. Замежная праграма» пры садзейнічанні Федэральнага цэнтра падтрымкі гастрольнай дзейнасці Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі.**

Пачаліся гастролі з лёгкай сатырычнай камедыі Астроўскага «Ваўкі і авечкі» пра людзей, з аднаго боку, неразумных і даверлівых, з другога — небяспечных і хітрых, словам — ахвяр і драпежнікаў. Апошнія, як высветлілася, таксама могуць трапіць у няёмкае становішча — вось тут і адбываецца самае цікавае. Працягнуўся тэатральны «хіт-парад» феерычным, жартаўлівым і неверагодна імклівым спектаклем «Вяселле, вяселле, вяселле!» па вадэвілях «Прапанова» і «Мядзведзь» Чэхава.

Пастаноўкі аб'ядноўвала тэма кахання ў розных праявах. Рэжысёрам выступіў заслужаны майстар сцэны Віталь Іваноў. Абедзве п'есы гучаць неверагодна актуальна сёння — нягледзячы на шаноўны ўзрост. Жыццё ідзе, а праблемы застаюцца. Многія складанасці, з якім сутыкаліся нашы продкі, як ні дзіўна, блізкія і нам. Асабліва калі справа тычыцца адносін, грошаў ці сямейных традыцый.

## ГАСТРОЛЬНЫЯ ТОНКАСЦІ

У чым галоўны сэнс і мэта гастроляў? Пра гэта распавёў генеральны дырэктар Федэральнага цэнтра падтрымкі гастрольнай дзейнасці Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі Антон Прохараў: «Адзін з самых важных момантаў для нашага цэнтра — убачыць рэакцыю гледачоў з іншых гарадоў, мястэчак, краін. Менавіта гастролі могуць удыхнуць новае жыццё ў тыя спектаклі, якія ідуць ужо шмат гадоў. Першапачатковай мэтай цэнтра была арганізацыя выязных спектакляў у межах Расіі, а потым мы вырашылі: не варта замыкацца сябе ў адной прасторы. Так нарадзілася праграма ўзаемадзеяння з рускімі тэатрамі за мяжой».

Мінчане маглі ўбачыць пастаноўкі ў першапачатковым выглядзе, такімі, як на маскоўскай, ужо гістарычнай сцэне. Калі казаць шчыра, часцей спектаклям усё ж такі не хапіла — нягледзячы на зорны акцёрскі склад, каларытныя касцюмы, дэталёва адноўленую эпоху, тонкі гумар… Пастаноўка «Ваўкі і авечкі», напрыклад, месцамі выглядала нібы ідэальнае практыкаванне, з густам выкананае, але статычнае — не ставала адчування руху, нечаканасцей і, дарэчы, шчырасці. Тым не менш гастролі сталі сапраўдным святам добрага настрою. Дарэчы, чаму да нас з Масквы прывезлі менавіта камедыі?

Намеснік генеральнага дырэктара Дзяржаўнага акадэмічнага малога тэатра Расіі Віктар Барабашкін на той самай прэс-канферэнцыі патлумачыў, чым абумоўлены выбар спектакляў для мінскай публікі: «Наш гастрольны рэпертуар — жаданне паказаць лепшае. Паўплывалі і тэхнічныя магчымасці сцэны НАДТ імя Горкага, бо яна меншая, чым у Маскве, — так што спектаклі вялікіх форм прывезці не атрымалася».

## АД БЕЛАРУСІ — У ЗАХАПЛЕННІ

Акцёры прызналіся, што наведваюць нашу краіну ўжо не ў першы раз і ўражаны Мінскам і Беларуссю ў цэлым.

Народны артыст Расіі Барыс Няўзораў жыў на Беларусі з 1981 года, здымаўся ў кіно. Успомніў фільм «Людзі на балоце», дзе ўзнаўляў вобраз Яўхіма, і звязаную з ім гісторыю пра гідракасцюмы, дзікі холад і спірт, закапаны пад дрэвам у зямлі.

Народная артыстка Расіі Людміла Палякова падзялілася іншым адкрыццём: «Я люблю беларусаў! Але памятаю смешны выпадак у пачатку 1990-х. Мне трэба было выканаць ролю ў спектаклі «Маці ўрагану» па Караткевічу. І прамовіць тэкст на беларускай мове... Яна ж такая простая, выдатная, меладычная. Але я, сорамна прызнацца, не змагла! Колькі б ні вучыла». Людміла Палякова доўга захаплялася мінскай архітэктурай, прыродай Беларусі і добразычлівасцю яе жыхароў. Кажучы пра драматургію, яна зазначыла: «Кіраўнік Малога тэатра Юрый Саломін увесь час кажа: паспрабуйце зразумець аўтара. Не мадэрнізуйце, не прыдумляйце. А Гогаль і Астроўскі несмяротныя! Многія рэплікі аказваюцца неверагодна актуальнымі сёння. Глядач гэта разумее. Асабліва прыемна, калі малады».

Мастацкі кіраўнік НАДТ імя М. Горкага Сяргей Кавальчук упэўнены, што абодва тэатры, маскоўскі і мінскі, цесна звязвае агульная гісторыя. Таму месца для гастроляў выбрана невыпадкова. Але што ведае наш глядач пра Малы тэатр? Свой творчы шлях ён вядзе яшчэ з 1824 года! На сцэне яго ззялі вялікія акцёры — Шчэпкін, Мачалаў, Садоўскі, Ярмолава, Фядотава, Ільінскі, Жараў, Цароў... Кожнае імя — залатая старонка ў гісторыі Малога тэатра, які нездарма называюць прадаўжальнікам нацыянальных традыцый расійскага тэатра.

## МІНУЛАЕ Ў 3D

Акрамя спектакляў, Малы тэатр прывёз у Мінск два праекты — мультымедыйную выстаўку «Тэатральны касцюм XIX — XX стст. у 3D-прасторы», якая дэманстравалася перад кожным спектаклем, і альбом «Мастакі Малога тэатра. XX стагоддзе», прысвечаны тым, хто ствараў шыкоўныя ўборы і дэкарацыі.

**Марыя ВОЙЦІК, фота аўтара**

# Літоўскі падыход

**Гастролі Рускага драматычнага тэатра Літвы адбыліся ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Ужо не першы год гэты тэатр наведвае Беларусь са сваімі пастаноўкамі, але гэтыя лістападаўскія гастролі былі насамрэч асаблівымі. Рускі драматычны тэатр Літвы сёлета святкуе сваё сямідзесяцігоддзе. З гэтай нагоды калектыў тэатра ўпершыню ў Мінску паказаў тэатральныя карціны свайго рэпертуару, якія былі здзейснены за апошні час, калі тэатрам кіруе лаўрэат Нацыянальнай прэміі Літвы, адзначаны шматлікімі прэстыжнымі тэатральнымі ўзнагародамі, Ёнас Вайктус.**



Сцэна са спектакля «Елка ў Івановых».

## МАРЫЦЬ ПРА ПАРЫЖ

Адкрыў гастрольны тыдзень спектакль «Зойкіна кватэра», пастаўлены па п'есе Міхаіла Булгакава. Пастаноўку ўспрынялі на ўра. Каларытны сюжэт з сакавітым, дасціпным гумарам і шматлікімі пераапрананнямі са звычайных хатніх халатаў у бліскучыя сукенкі і строгія смокінгі ў стылі рэтра, безумоўна, інтрыгуе. У спектаклі апісаны часы НЭПа, калі людзі спяшаліся жыць і зайграліся да самай мяжы, навязалі сабе ролі, якія не ў стане выканаць. Галоўная гераіня Зоя Пельц адкрывае ў сваёй кватэры пашывачную майстэрню для багатых нэпманш, але ж увечары яе атэлье ператвараецца ў публічны дом, дзе заможныя кліенты гатовыя аддаваць вялікія грошы на сумнеўныя забавы. З дапамогай сваёй афёры Зоя плануе зарабіць сродкі на пабег у Парыж, але марам усё ж такі не наканавана здзейсніцца. Спалучэнне бляску і галечы ў гэтай карціне падштурхоўвае задумацца над каштоўнасцямі чалавека. Зойка, загнаная ў кут жанчына, якая, на жаль, страціла сваё месца ў жыцці, спрабуе яго знайсці і вярнуць сярод шуму, музыкі і распусты, страчвае сябе канчаткова. Актрыса Інга Машкарына, выконваючы ролю галоўнай гераіні, арганічна ўпісалася ў вобраз. Падчас дзеяння ад яе нельга было адвесці вачэй. Сваёй харызмай і прыгажосцю актрыса захапіла ўвагу залы і не адпускала да канца спектакля.

## НЕЧАКАНАЯ ЁЛКА

Другі спектакль вялікіх гастроляў Рускага драматычнага тэатра Літвы таксама здзівіў беларускіх гледачоў. Пастаноўка Ёнаса Вайктуса «Ёлка ў Івановых», пастаўленая па п'есе драматурга Аляксандра Увядзенскага, выклікала ў гледачоў неадназначнае ўражанне, бо людзі, знаёмыя з творчасцю Увядзенскага, ведаюць, што гэта спецыфічны аўтар і да яго твораў трэба быць падрыхтаваным. Але ж некаторыя з наведвальнікаў тэатра ў назве спектакля «Ёлка ў Івановых» знайшлі іншы сэнс. Прыйшоўшы на «перадНавагодні» спектакль і ўбачыўшы на сцэне абсурд і адсячэнне галавы маленькай дзяўчынкі, яны, не дачакаўшыся антракту, адзін за адным пакідалі тэатральную залу, некаторыя нават кідалі ў бок сцэны колкія слоўцы. Нягледзячы на такі непрыемны паварот падзей, акцёры з годнасцю працягвалі спектакль. Здаецца, тыя з гледачоў, хто засталіся, наадварот, вельмі высока ацанілі яркае і эксцэнтрычнае прадстаўленне. У пастаноўцы паяднаны авангард і відовішчнасць, дух чакання Раства і адчуванне змучанасці герояў. Яшчэ больш стварае трагічна-няёмкую атмасферу рэзкае музычнае афармленне спектакля. Каля пяцідзесяці акцёраў іграюць і спяваюць у гэтай смелай тэатральнай карціне пад кіраўніцтвам дырыжора хору Літоўскай нацыянальнай оперы Вітаўтаса Лукочуса.

## АНЕГІН? У НОВЫМ ФАРМАЦЕ!

Трэці спектакль вялікіх лістападаўскіх гастроляў — адна з самых маштабных пастановак Рускага драматычнага тэатра Літвы. «Яўгеній Анегін» у прадстаўленні Ёнаса Вайктуса кардынальна адрозніваецца ад пушкінскага твора. Спектакль апынуўся цяжкім для ўспрымання, бо ўсё ж такі рамантычнасцю і гарманічнасцю рамана Аляксандра Пушкіна тут нават і не пахне. Яўген Анегін у чорных круглых акулярах развязнай хадой валочыцца па сцэне і насвіствае мелодыі. Паралельна з тэкстам, які акцёр пачынае гаварыць услых, танцуюць артысты «Балтыйскага балета» і разам з гэтым на заднім фоне ўсё дзеянне суправаджаецца незвычайным відэаафармленнем. Спецыфічная прэзентацыя класічнага твора можа выклікаць абурэнне, але ж, гледзячы на новую інтэрпрэтацыю сюжэта, кожны з гледачоў, безумоўна, можа знайсці новыя адкрыцці ў сэнсе рамана.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Успамінаючы Браніслава Зубкоўскага

**Кагорта краязнаўцаў, якія жылі, працавалі на Пухавіччыне, у Мар'інай Горцы ў апошнія дзесяцігоддзі, можа быць, і не такая вялікая, але досыць прадстаўнічая, сур'ёзная. Гэта яны стваралі гісторыка-літаратурны, гісторыка-краязнаўчы партрэт старонкі. Гэта яны праз музейныя зборы, стварэнне краязнаўчых экспазіцый у школах, бібліятэках, публікацыю артыкулаў у перыёдыцы і нават выданне кніг паспрыялі адкрыццю многіх імён і падзей. Віктар Рыгоравіч Арлоў, Аляксандр Васільевіч Пікулік, Сяргей Іванавіч Сіпач, Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі…**

Браніслава Зубкоўскага, які пакінуў гэты свет у 2015 годзе, і сёння добра помняць у настаўніцкім, педагагічным асяроддзі школ Пухавіччыны. Ён, здаецца, яшчэ і сам зусім нядаўна сеяў разумнае, добрае, вечнае…

Браніслаў Аляксандравіч працаваў у Мар'інай Горцы, Омельна, Блужы, Светлым Бары. Выкладаючы беларускую літаратуру, родную мову, Зубкоўскі выступаў арганізатарам краязнаўчай работы. У Блужы ён даволі шмат зрабіў для ўшанавання памяці воіна-«афганца» Героя Савецкага Саюза Мікалая Чэпіка. У гэтай справе паплечнікам настаўніка выступіў вядомы журналіст і краязнаўца Анатоль Паўлавіч Ярохін. Яны не толькі стварылі дакументальную аповесць пра героя, але і ўсямерна спрыялі розным мерапрыемствам мемарыяльнага характару, звязаным з Мікалаем Чэпікам. І ніколі не шкадавалі дзеля гэтага часу, уласных сіл. І калі ўжо не стала ў сярэдзіне 1990-х гг. Анатоля Ярохіна, Браніслаў Аляксандравіч самастойна, адзін, часам без усялякіх спадзяванняў на падтрымку, грукаўся ў дзверы розных інстанцый, прабіваў сумленне раўнадушных і проста абыякавых чыноўнікаў і шараговых людзей. І бясконца, узнёсла расказваў пра Мікалая, Колю Чэпіка. Вось хто, такія, як Зубкоўскі, уплывалі і ўплываюць на выхаванне моладзі, грамадства ў цэлым.



Фота Кастуся Дробава.

Другі клопат Браніслава Аляксандравіча — вывучэнне жыцця і творчасці народнага песняра Беларусі Якуба Коласа ў звязку з Пухавіцкім краем. Пухавіцкі настаўнік быў ці не першы, хто ўзняў гэтую тэму на асаблівую вышыню. Ён аб'ехаў усе паселішчы і мясціны, якія ў свой час былі вядомыя аўтару «Новай зямлі» ў Пухавіцкім краі: Талька, Вусце, Загібелька, Падбярэжжа, Беразянка, Балачанка. Ён сустракаўся са сведкамі жыцця Коласа на Пухавіччыне, дзецьмі, унукамі пухавіцкіх знаёмых Коласа, зазіраў у сямейныя архівы, выслухоўваў сямейныя паданні, легенды на «коласаўскую тэму». І як чалавек таленавіты, як здольны краязнаўца, удумлівы літаратар. З сабранай інфармацыі выбудоўваў сюжэты. Пісаў не толькі дакументальныя нарысы, краязнаўчыя артыкулы, якія з ахвотай друкавалі самыя розныя выданні. Не толькі ў Беларусі, але і ва Украіне, Расіі Браніслаў Аляксандравіч апрацоўваў сюжэты на «коласаўскую тэму» па-мастацку, пісаў апавяданні. У большасці сваёй — адрасаваныя юнаму чытачу. Так нарадзіліся кнігі «Чаму Загібелька лепш Парыжа» (гэты зборнік па-беларуску выдадзены ў Курску), «Сцяжынкамі Якуба Коласа».

З прэзентацыяй гэтых кніг Браніслаў Аляксандравіч абышоў большасць школ Мар'інай Горкі, Пухавіцкага раёна. Сваімі дакументальнымі, мастацкімі каментарыямі да жыццяпісу Якуба Коласа краязнаўца дапаўняў урокі беларускай літаратуры. Можа быць, значнасць, важкасць гэтай задачы, гэтага клопату ён і сам не ўсведамляў. Але ўжо калі адзін-два вучні з кожнай з тых сустрэч пад уражаннем жывой размовы з настаўнікам і пісьменнікам адкладвалі ў сваёй памяці коласаўскія творы, коласаўскіх герояў, — і гэта дарагога каштуе.

…Мы вельмі часта, гадамі ліставаліся, перазвоньваліся з Браніславам Аляксандравічам. Ён быў госцем у хаце маіх бацькоў у Зацітавай Слабадзе. Я быў госцем у іх з Ірынай Яфімаўнай кватэры ў Мар'інай Горцы па вуліцы Камунальная, дом 8. Браніслаў Аляксандравіч быў шчодрым на творчыя парады. Між іншым, парады гэтыя насілі зусім не агульны характар. Ужо адно тое, што Зубкоўскі заўсёды цікавіўся зробленым, напісаным табою, уражвала. Ён вызначаўся пільнай увагай да стваранага калегамі. І ўжо калі адважваўся на парады, то яны насілі канкрэтны, болей таго — прафесійны характар. Часам такія парады прымушалі нешта ўжо зробленае, зафіксаванае, тое, на чым, здаецца, пастаўлена кропка, перарабляць, істотна дапаўняць ці часам нават выпраўляць. Падказкі, заўвагі з вуснаў, з лістоў Браніслава Зубкоўскага насілі карэктны характар. Валодаючы пачуццём педагагічнага такту, ён стараўся выказацца мякка, лагодна, але разам з тым быў у сваіх ацэнках, жаданні іх давесці, зрабіць усё магчымае, каб іх пачулі, настойлівым, паслядоўным.

Мяне здзіўляла, як ён шмат чытаў. Уся беларуская літаратурна-мастацкая перыёдыка, большасць кніжных навінак сучаснай беларускай літаратуры — усё, здаецца, у яго перад вачыма. Яшчэ са студэнцкіх гадоў (Браніслаў вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, сённяшнім універсітэце імя А. А. Куляшова) Зубкоўскі часта звяртаўся да жанру рэцэнзіі. Ён актыўна адгукаўся ў друку на кнігі дзіцячых пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў. Зараз вось зазіраю ў біябібліяграфічны шасціпомнік «Беларускія пісьменнікі» — і бачу назвы тых рэцэнзій, літаратурна-крытычных водгукаў: «Скарбы роднай мовы», «На навуковым узроўні» (пра Рыгора Шкрабу), «Кніга пра старэйшага пісьменніка», «Карысны дапаможнік» (пра кнігі Маргарыты Яфімавай), «Турботы маленькага чалавека» (пра «Тараскавы турботы» Уладзіміра Юрэвіча), «Даверлівая размова» (пра зборнік вершаў Эдзі Агняцвет), а яшчэ ж — дзясяткі іншых рэцэнзій, артыкулаў, якія друкаваліся не толькі ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, але і ў пухавіцкай "раёнцы" на працягу літаральна дзесяцігоддзяў! Як мне падаецца, каб так працаваць, то, пэўна ж, літаратурнаму, публіцыстычнаму занятку ты павінен аддавацца напоўніцу, увесь, што называецца, без астатку. Так, відаць, гэта атрымалася і ў жыцці Браніслава Зубкоўскага.

Была ў Браніслава Аляксандравіча і яшчэ адна рыса: краязнаўца, пісьменнік, ён добра памятаў калег па літаратурнаму цэху, з якімі яго зводзілі жыццёвыя сцежкі-дарожкі. І колькі б гадоў ні прайшло, як хтосьці з блізкіх яму равеснікаў ці старэйшых таварышаў пакінуў белы свет, Браніслаў Зубкоўскі не забываўся пра юбілеі, пісаў пра сяброў у друку. Нагадваў пра тое, каб іх не забываліся ў роднай старонцы, пісаў пра гэта ў бібліятэкі, школы, дакучаў мясцовым уладам. Так было і ў выпадку з Анатолем Ярохіным, Міхасём Казаковым, Алесем Макарэвічам.

Спадзяюся, што і самога Браніслава Аляксандравіча будуць доўга помніць. Асаблівa — на роднай яму Пухавіччыне, у Мар'інай Горцы, дзе ён нарадзіўся і пражыў амаль усё сваё жыццё.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

***Нататкі чытача***

# Каб вяртаць мінулае

Мне было гадоў дванаццаць. Пачынаўся чэрвень. А наперадзе — лета ў Балотных Ялінах, знаёмства з Андрэем Беларэцкім, гісторыя роду Яноўскіх. Тады я і падумаць не магла, што кніга гэтая стане правадыром у свет авантураў і яркіх пачуццяў.

Увечары ліпуў дождж. Неба зацягнула цёмнымі хмарамі, бліскалі маланкі — лепшай нагоды залезці пад коўдру і занурыцца ў новую гісторыю не прыдумаць. Калі б я ведала, што мяне чакае!

З першых старонак трапляю ў глухія змрочныя мясціны, дзе ўсюды — заняпад і пустэча... Цяпер, калі я згадваю той вечар, кажу сабе колішняй: «Не спяшайся. Гэта толькі пачатак. Самае страшнае (і самае лепшае!) — наперадзе».

І сапраўды. Беларэцкі цягнецца праз ноч і лес. Я ж — цягну на сябе коўдру. Там, над лесам, праз які прабіраецца бядак-фалькларыст, хмары і маланкі... Акурат як за маім акном! Наступную хвалю страху прынёс Маленькі Чалавек. Ён прымусіў запаліць святло па ўсёй кватэры.

Маленькі Чалавек, якога Беларэцкі раптоўна ўбачыў… Памятаю гэтае месца ў аповесці: звычайнае, роўнае апісанне вечара, Беларэцкі адпачывае ў сваім пакоі, ужо амаль заснуў і… Нечакана, асобным абзацам:

«Праз шыбу глядзеў на мяне чалавечы твар».

Я перачытвала адзін радок зноў і зноў. У той момант я была Беларэцкім. Шалёныя думкі прымушалі глянуць на вакно хоць адным вокам. Але што, калі раптам сустрэнуся з позіркам Маленькага Чалавека.

Жахі, перажытыя ў той вечар, памятаю ў дэталях. Нават магу ўзгадаць, на якой старонцы — левай ці правай — месціліся самыя страшныя гісторыі. Хтосьці скажа: «Якое глупства!» Няхай. Але ёсць і тыя, хто пакуль не знаёмы з «Дзікім паляваннем караля Стаха». І ім я шчыра зайздрошчу, і з задавальненнем вярнулася б у той пакой, у той вечар.

Я шмат разоў перачытвала «Паляванне...» і кожны раз знаходзіла новыя дэталі: узнёслыя, сумныя і глыбокія. У дзевятнаццаць я перагортвала старонку за старонкай, апантана сачыла за адносінамі паміж Беларэцкім і «гаспадыняй Балотных Ялін». Я думала, як склаўся іх лёс, уяўляла жыццё пасля драматычных падзей, што выпалі на іх долю. Я верыла ў кожнае слова «Палявання...», усё было рэальнасцю — і яе падарыў мне аўтар. Можна сказаць, Караткевіч захапіў мяне ў палон. Але ж палон той — дабраахвотны.

У Балотных Ялінах не толькі захаплялася рамантычнай гісторыяй. Я разумела Беларэцкага, які пакутаваў ад бязлітаснага ходу стагоддзяў, праз тое, як яны ціхімі, але рашучымі рухамі выпраўляюць рэальнасць у мінулае.

Цяпер мне дваццаць адзін, і, чытаючы прозу, паэзію, публіцыстыку Уладзіміра Сямёнавіча, успаміны сучаснікаў і даследчыя працы па яго творчасці, я ўжо ведаю: Караткевіч сам у нейкай ступені быў Беларэцкім. Бо што тыя Балотныя Яліны, як не Беларусь, багатая на гісторыі пра каралёў Стахаў? І як Беларэцкі насуперак усяму — страху, угаворам, пагрозам — застаўся ў Балотных Ялінах, так і Уладзімір Сямёнавіч застанецца з намі і з нашымі нашчадкамі. Каб вяртаць мінулае ў рэальнасць.

**Вера ЖЫДАЛОВІЧ**

# Вянок сяброўства

Пяты год запар падвор'е Васіля Семенюка ў вёсцы Баравікі на Дзяржыншчыне зіхацела нацыянальнымі малдаўскімі і беларускімі колерамі. Госці ў нацыянальных строях танчылі беларускую польку і палымяную малдаванеску, частаваліся дранікамі і мамалыгай, спявалі песні…

Дзякуючы намаганням беларуска-малдаўскай сям'і Семенюкоў — Васіля Міхайлавіча і Ніны Сцяпанаўны — у звычайнай вёсцы зладзілі свята беларуска-малдаўскай дружбы «Вянок сяброўства», прысвечанае і Дню незалежнасці Малдовы. Мерапрыемства праводзіцца пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Малдова ў Беларусі і грамадскага аб'яднання малдаван у нашай краіне.

Сярод ганаровых гасцей — пасол Малдовы ў Рэспубліцы Беларусь спадар Георгій Хіаарэ, часовыпавераны ў справах Рэспублікі Румынія ў Рэспубліцы Беларусь спадар Сорын Малдаван, удзельнікі літаратурнага аб'яднання «Выток», члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Рэгіна Рэўтовіч, Людміла Круглік, паэт Антон Анісовіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык» Алесь Каршакевіч і іншыя.

Падчас імпрэзы прыгадалі карані даўняй дружбы беларускага і малдаўскага народаў. Яшчэ ў 1374 годзе сын навагрудскага князя Карыята Юрый быў запрошаны на пасаду гаспадара Малдовы, а ў 1399-м у бітве войскаў Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем Вітаўтам супраць татараў Залатой Арды на баку нашых продкаў ваявалі малдаване. У 1410 годзе, падчас Грунвальдскай бітвы, таксама былі разам: на баку саюзных войскаў пад кіраўніцтвам Вітаўта Вялікага і караля Польшчы Ягайлы ваявалі малдаўскія сечкары — у атрадах нацыянальнага героя Чэхіі Яна Жыжкі.

Як не прыгадаць і падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Бацька пасла Малдовы, Мікалай Георгіевіч Хіаарэ, удзельнічаў у вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ураджэнец Клімавіцкага раёна Дзмітрый Жмуроўскі за гераізм, праяўлены пры вызваленні Малдовы, быў узнагароджаны ганаровым званнем Героя Савецкага Саюза. Некалі мне, студэнту Белдзяржуніверсітэта, даводзілася слухаць яго лекцыі па гісторыі. Вось так, быццам дзве вінаградныя лазы, перапляліся лёсы нашых народаў.

**Лявон ЦЕЛЕШ**

Далёкае-блізкае

# З просьбай прабачыць

**Унікальны і адзіны ў краіне Мемарыяльны комплекс памяці Першай сусветнай вайны «Крокі» створаны ў Вілейскім раёне. Знаходзіцца музей пад адкрытым небам у вёсцы Заброддзе, праз якую праходзіла лінія фронту. Жыхары гэтага населенага пункта калісьці прымалі рускіх воінаў на пастой. Побач у лесе размяшчаўся шпіталь, у паходнай царкве якога адпявалі памерлых.**



*Капліца святых Барыса і Глеба ў вёсцы Заброддзе.*

## «КАМЕНЬ СОРАМУ»

Аўтар праекта комплексу, арганізатар і натхняльнік — член Беларускага саюза мастакоў, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Барыс Цітовіч. Сын кадравага ваеннага, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, унук удзельніка Першай сусветнай. Разам са сваёй жонкай Валянцінай Пятроўнай, рэжысёрам па адукацыі, ён памяняў Мінск на вёску і натхнёна працуе разам з блізкімі яму людзьмі над увекавечаннем памяці продкаў. Менавіта яны распавялі шмат цікавых фактаў пра тую далёкую і малавядомую для суайчыннікаў вайну.

Побач з могілкамі ў вёсцы Заброддзе знаходзіцца «камень сораму». «У яго вельмі цікавая гісторыя, — зазначае Барыс Барысавіч. — Мы праводзілі міжнародны пленэр мастакоў. Скульптар з Брэмена доўга хадзіў вакол гэтых могілак, хмуры, задуменны. А потым папрасіў прывезці камень і цэлы тыдзень нешта на ім высякаў. Праз перакладчыка спыталі ў яго: «Піт, што гэта за надпіс?». «Я выйшаў з сям'і махровых нацыстаў, малодшы сын эсэсаўца… Але я пацыфіст, увесь час канфліктаваў з бацькам на ваеннай глебе. За тое, што мае сваякі пралілі кроў, я адчуваю на сабе радавы грэх. І на камяні напісаў просьбу-зварот немцаў аб прабачэнні за два паходы на гэтыя землі», — такі быў адказ.

— Тое, што мы забылі воінаў Першай сусветнай вайны, гэта таксама наш агульны грэх, — працягвае суразмоўца. — Але не будзем шукаць вінаватых. Проста трэба нешта рабіць.

Звяртаю ўвагу на невялікую стэлу. Пад ёй — камень з надпісам: «На ўспамін душы казака Данілы Шаўчэнкі». «Як расказвалі старажылы, казак ехаў каля лесу з дазорам, але яго застрэліў варожы снайпер, — распавядае далей Барыс Барысавіч. — Пахавалі воіна на мяжы паміж надзеламі двух братоў. Калі арганізавалі калгас, поле зааралі, магіла згубілася. Але камень з іменем усё ж захаваўся, і мы паставілі тут памятны знак».

А вось і драўляная капліца з гонтавым дахам у гонар блаславенных князёў Барыса і Глеба — заступнікаў воінства. Капліца сама па сабе сціплая. Як гімнасцёрка салдата — выцвілая, пакрытая пылам. На ўваходных дзвярах выразныя ўзнагароды — чатыры Георгіеўскія крыжы. У прытворы — інсталяцыя. «Гэта работа майго сябра, капітана II рангу Аляксандра Праснякова, — распавёў Барыс Цітовіч. — Адна з кампазіцый прысвечаная ліквідацыі Свянцянскага прарыву ў кантэксце Віленскай аперацыі. Гэта адно з нямногіх пытанняў, якое асвятлялася ў савецкай школе. А ў цэлым мы называем тэму Першай сусветнай вайны «прапушчанай»: яе не праходзілі нават у ваенных установах.

## БЕЛЫЯ ГАЛУБКІ

Асобны раздзел прысвечаны сёстрам міласэрнасці. Белыя галубкі… Так называлі жанчын, якія ўспрымалі чужы боль як асабісты, гатовыя былі ахвяраваць сабой.

— Цяпер некаторыя маладыя здаровыя мужчыны, выкарыстоўваючы сувязі, стараюцца «адкасіць ад арміі». А гэтыя дзяўчаты, амаль што дзяўчынкі, імкнуліся дзякуючы сувязям пайсці на фронт, збягалі з дому, заканчвалі медыцынскія курсы. І мала таго, што годна выконвалі прафесійныя абавязкі, яшчэ і подзвігі здзяйснялі. Генрыета Сарокіна выратавала сцяг пяхотнага Лібаўскага палка, узнагароджаная Георгіеўскім крыжам I і II ступеняў. Знятае з дрэўка палотнішча захоўваў на грудзях ранены сцяганосец, з ім і трапіў у палон. На перавязачным пункце ён перадаў сцяг Генрыеце Сарокінай. Сястра міласэрнасці вярнула яго па прызначэнні… Арына Іванова спыніла варожы полк, а сама загінула. Яна адзіная дзяўчына за ўсю гісторыю імператарскай арміі ўзнагароджаная ордэнам Святога Георгія IV ступені па асабістым пажаданні Мікалая II.

Дзеці на вайне — гэта таксама ненармальна. Але калі Айчына апынулася ў небяспецы, падлеткі 12 — 14 гадоў пайшлі ваяваць. Хлопчыкі былі сувязістамі, пасыльнымі, разведчыкамі, радыстамі. Некаторыя нават мелі па 2 — 4 Георгіеўскія крыжы. А заслужыць такую ўзнагароду было вельмі няпроста. Для гэтага патрабавалася многае звыш прысягі: захапіць «языка», варожую зброю, гарматы, першым уварвацца на батарэю ці ў акопы чужынцаў, выратаваць камандзіра, свайго таварыша…

На пачатку стагоддзя ўсе краіны былі ўпэўненыя, што ваяваць давядзецца нядоўга. Паводле стратэгічнага плана ваеннага камандавання Германскай імперыі, так званага плана Шліфана, меркавалася захапіць Францыю за 6 тыдняў, затым расправіцца з Расіяй на Усходнім фронце. Але вайна зацягнулася на 4 гады, 3 месяцы і 10 дзён. Бясспрэчна, гэта выматала ўсе чалавечыя рэсурсы 38 краін — удзельніц крывавых падзей. У тым ліку і Расійскай імперыі, у склад якой уваходзіла Беларусь.

Але беларуская зямля стала перашкодай для кайзераўскіх і Аўстра-венгерскіх войскаў, яны так і не змаглі прасунуцца ў глыбіню імперыі. Менавіта тут у 1915-м наступленне ворага было спынена, вайна набыла акопны характар. Амаль тры гады нашыя продкі стрымлівалі варожыя войскі.

— Адна з самых страшных і крывавых старонак вайны — выкарыстанне атрутных рэчываў, якія ўслед за кайзераўцамі пачалі прымяняць французы, англічане, рускія, — адзначыў Барыс Цітовіч. — Напачатку людзі проста не разумелі, чаму, калі ў паветры разносіўся водар яблык ці сена, пачыналі задыхацца, а потым наступаў параліч дыхання, страшны апёк і ацёк лёгкіх адначасова. Чалавек заставаўся калекам на ўсё астатняе жыццё.

Каб засцерагчы органы дыхання, спачатку выкарыстоўвалі звычайную маску з тканіны. На Мядзельшчыне знайшлі 100-гадовую ёмістасць з вадкасцю для яе прамочвання, якую перадалі ў музейную экспазіцыю капліцы. Затым з'явіўся процігаз Горнага інстытута — на фронт было пастаўлена каля 1 млн 200 адзінак. Але вынаходніцтва не дало жаданага выніку: вапна, якой быў напоўнены бачок, пры інтэнсіўным дыханні камянела, і чалавек не мог дыхаць наогул. Прыстасаванні проста выкідвалі як непатрэбныя. І толькі процігаз Зялінскага-Куманта з прымяненнем вугалю займеў добры эфект. Дарэчы, ім карыстаюцца і сёння.

Падступнасць немцаў выявілася не толькі ў газавых атаках. Пад штучна створаную дымавую завесу яны дабівалі раненых салдат праціўніка спецыяльнай выбівачкай: эканомілі патроны. Гэтае прыстасаванне, зробленае з корпуса гранаты ці шасцярні на палцы, яны называлі «morgen stern» — ранішняя зорка імя паўшага анёла. І ў такой надзвычай цяжкай сітуацыі людзі ўтрымлівалі лінію фронту, контратакавалі, выходзілі насустрач газавым атакам…

Між іншым яны маглі і павесяліцца. Шлем кайзераўскіх салдат аздабляла зверху вострая піка. У нашых воінаў, кажучы сучаснай мовай, быў «прыкол»: адстрэліць немцу «шышак», каб не ганарыўся. Для праціўніка гэта была вялікая ганьба — тое самае, што гусару згаліць вусы ці пеўню вышчыпаць хвост.

## ДАЗВОЛ НА ЖАНІЦЬБУ

Святары на вайне не толькі выконвалі сваё непасрэднае прызначэнне — маліцца за салдат, перамогу, прычашчаць, адпяваць загінулых, але і дапамагалі раненым. Яны маглі замяніць медыцынскі персанал. Разам з тым яны адносіліся да нонкамбатантаў (ад фр. *non — combatants* — «хто не ваюе»). Але часта без зброі ў руках здзяйснялі гераічныя ўчынкі. На Вілейшчыне 7 святароў адзначаныя высокай узнагародай — Залатым нагрудным Крыжам на Георгіеўскай стужцы. Святар Павел Сасноўскі, які служыў за два кіламетры ад Заброддзя, клапаціўся пра шпіталь і могілкі.

— Мы спачатку знайшлі яго рукапіс, а потым, з дапамогай мясцовых бабулек, і фатаграфію, — падзяліўся Барыс Цітовіч. — Служыцель узнагароджаны ордэнам святой Ганны III ступені. Як сказана ў загадзе, за «труды и усердие, понесённые по лазарету № 1 29-й пехотной дивизии».

…На вайне, як правіла, смерць і жыццё ідуць побач. Пра гэта сведчаць лісты з пячаткамі: дазвол на жаніцьбу з мясцовымі дзяўчатамі і ўдовамі. Іх выдаваў камандзір. Праўда, з агаворкай у канцы: калі на тое не будзе перашкоды духоўных улад (а можа, у хлопца дома засталася жонка, а ён хоча прыжаніцца ў другі раз?). «Бласлаўляў» на шлюб загад № 1415 генерала Аляксеева, які ўзначальваў штаб пры вярхоўным галоўнакамандуючым. Фронт стаяў амаль тры гады, і, як толькі здаралася зацішша, хлопцы ішлі да дзяўчат, нараджаліся незаконныя дзеці…Трэба было ўрэгуляваць пытанне, каб такія немаўляты былі аформленыя. Дарэчы, такія дзеці атрымлівалі пенсіён да паўналецця, а жанчына — у выпадку гібелі мужа.

**Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ**

Млын навін

# Галоўны прыз — паездка ў Скандынавію

**Міжнародны фонд падтрымкі дзікай прыроды «Чырвоны бор» разам з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь у межах праекта «Жывая вада» праводзяць конкурс журналісцкіх работ «Самая незвычайная крыніца рэгіёна».**

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна распавесці пра гісторыю самай незвычайнай крыніцы, звязаныя з ёю легенды і, магчыма, аб праблемах, якія ўзнікаюць вакол гэтага месца. Публікацыі павінны быць размешчаныя ў прэсе, на сайце, а відэа- ці радыёсюжэты — прагучаць у эфіры.

Творчыя матэрыялы неабходна даслаць да 28 лютага на адрас фонду «Чырвоны бор»: 220004, Беларусь, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 19А-18 ці на e-mail: *priroda@tio.by.* Аўтары пяці лепшых работ атрымаюць магчымасць пабываць у прыродным комплексе «Чырвоны бор», паглядзець на ўзнаўленне крыніцы «Серабранка», адпачыць у гасцініцы «Ізубрыца». Галоўны прыз — творчая камандзіроўка ў адну са скандынаўскіх краін з кампаніяй «Лацінсервіс-2000». Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя вясною на выстаўцы «Адпачынак-2016».

* * *

Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, запрашае на выстаўку «Івянецкая школа керамікі: традыцыі і сучаснасць». Экспазіцыя знаёміць з работамі сучасных майстроў ды іх папярэднікамі з мінулага веку. Івянецкая кераміка вядома з XVI ст., а ў XIX — XX стст. мястэчка ўжо называлі «сталіцай ганчарства». Працавітасць, адчуванне ўласцівасцей гліны — сакрэты майстэрства ўвасобіліся ў сапраўдныя шэдэўры, якія і сёння здзіўляюць і ўражваюць бездакорным густам.

Творчыя пошукі новага стылю, заснаваныя на шматвяковых традыцыях, працягваюць майстры Івянецкага завода мастацкай керамікі: выкарыстоўваюць старадаўнія тэхналогіі ангобу і фляндроўкі, а таксама ўносяць у народны промысел сучасныя ноты. Для лепшых узораў івянецкай керамікі характэрныя высакароднае матавае адценне, карпатліва падабраныя колеры і старанна нанесены малюнак.

* * *

У зале археалагічнай экспазіцыі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адкрылася штогадовая выстаўка «Новае ў археалогіі Гомельшчыны». Па традыцыі ў экспазіцыі прадстаўленыя самыя новыя знаходкі археалагічных экспедыцый, якія праходзілі летась у Гомелі і на тэрыторыі вобласці. Былі знойдзеныя ўнікальныя для гэтага рэгіёна рарытэты X — XI стст. і ўпрыгожванні XII — XIII стст. Акрамя таго, супрацоўнікі музея падзяліліся вынікамі ўласных даследаванняў, зробленых падчас раскопак помнікаў эпохі Старажытнай Русі ў Гомельскім і Лоеўскім раёнах.

Упершыню прадэманстраваныя матэрыялы мяжы XIX — XX стст. — каштоўнасці, знойдзеныя пры даследаванні драўлянага судна пад Гомелем, і матэрыялы цагляна-шкляной вытворчасці, якія былі выкарыстаныя пры рэстаўрацыі магільнага склепа Паскевічаў.

**Раіса МАРЧУК**

# Фантастычныя сюжэты



*«Зіма». 2015 г.*

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адбылося адкрыццё персанальнай выстаўкі вядомага беларускага і французскага мастака Рамана Заслонава, які апошнія дваццаць год дзеліць сваё творчае жыццё паміж Беларуссю і Францыяй. Актыўнымі арганізатарамі гэтай выстаўкі выступілі пасол Рэспублікі Беларусь у Францыі Павел Латушка і дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў.

«Раман Заслонаў — гэта яркая асоба, таленавіты мастак, які працягвае лепшыя традыцыі беларускай мастацкай школы», — падкрэсліў на адкрыцці выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. За апошні час у музеі ўпершыню сабралася столькі народу... Вялікая чарга ў гардэроб адразу дала зразумець, што будзе аншлаг. На прэзентацыю экспазіцыі прыйшлі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, калегі, сябры і прыхільнікі творчасці мастака. Усе дзяліліся ўражаннямі, цікавіліся мастацкім шляхам творцы, згадвалі гісторыі, якія звязвалі іх з Раманам. Аднак афіцыйная частка скончылася хутка, і наведвальнікі адправіліся вывучаць стылістыку прадстаўленых карцін.

Экспазіцыя гледачоў адназначна ўразіла: карціны настолькі зачаравалі сваёй эмацыянальнасцю, што ніводную з іх немагчыма было абмінуць. Гледзячы на прадстаўленыя вобразы, адразу ж пачынаеш разважаць над загадкаю твораў. На ўсіх работах з анатамічнай дакладнасцю выяўлены прыгожыя жанчыны ў гістарычным (збольшага) антуражы. Выявы аб'яднаныя адным настроем, падобнымі сюжэтамі, колеравай гамай. Па праглядзе ўсіх палотнаў прыходзіш да думкі, што работы створаныя ў межах аднаго цыкла. Тэатральнасць карцін таксама зацікаўлівае, яна надае вытанчанасць і прыгажосць галоўным гераіням палотнаў. Работы майстра насычаны фантастычнымі кампазіцыямі. Усяго на выстаўцы прадстаўлена каля сарака карцін Рамана Заслонава. Майстар працуе ў напрамках сюррэалізму, фантастыкі, неарамантызму. Адной з цэнтральных карцін на выстаўцы стала палатно «У чаканні Музы».

Раман Заслонаў нарадзіўся ў Мінску ў 1962 годзе. Творчая сям'я паспрыяла развіццю таленту і дапамагла зрабіць першыя крокі. Дзед Рамана — легендарны Канстанцін Заслонаў, Герой Савецкага Саюза. Хто ведае, быць можа, такія генетычныя сувязі абумовілі ўпэўненасць і мэтанакіраванасць мастака. У 1985 годзе ён скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, у 1997 годзе на Восеньскім салоне ў Парыжы атрымаў сваю першую прэмію. Сёння работы майстра, акрамя мастацкіх галерэй Парыжа, можна ўбачыць у ЗША, Іспаніі, Германіі і Швейцарыі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Палотны танцуюць

**Выстаўка Васіля Зянько «Архіварыус» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі прадстаўлена адзінаццаць твораў жывапісу і арт-аб'ектаў, над якімі аўтар працаваў у розныя гады.**



*«Жыццёвы рытм». 2015 г.*

Падчас адкрыцця выстаўкі Васіль Зянько прызнаўся, што крыніцай натхнення для яго з'яўляецца прырода ў першасным, некранутым выглядзе, якой яна была да з'яўлення чалавека. Аўтар захапляецца флорай і фаўнай, адлюстроўвае раслінны і жывёльны свет. На яго палотнах — кветкі дзіўнай прыгажосці, стылізаваныя насякомыя, рыбы, рэптыліі, птушкі... На некаторых работах можна пабачыць віды, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення.

Як адзначыла мастацтвазнаўца Наталля Сяліцкая, адной са стылістычных асаблівасцей творчасці аўтара з'яўляецца зварот да спадчыны Ар-Нуво. Творы мастака будуюцца на кантрастах цёмнага і светлага, усемагчымых спалучэннях арганічных колераў і адценняў — жоўтага, чырвонага, аранжавага, тэракотавага, аліўкавага, вохры...

Карціны творцы, дынамічныя, экспрэсіўныя, прасякнутыя моцнай энергетыкай, нагадваюць усходнія арабескі. Спачатку ўзнікае ўражанне, што палотны «танцуюць»: яны стракацяць хвалістымі лініямі, мудрагелістымі арнаментамі, геаметрычнымі ўзорамі, якія ствараюць асаблівы рытм.

Па словах мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн, творчасць мастака вылучаецца сінкрэтызмам: у ёй гарманічна злучаюцца розныя віды мастацтва. Яго работы, глыбокія, філасофскія, напоўненыя шматлікімі сімваламі, нельга зразумець імгненна — трэба ўдумвацца, разважаць.

Мэта арт-праекта — захаваць вобразы жывой прыроды, якія пакутуюць ад дзейнасці чалавека. Аўтар пераносіць на палотны сваё бачанне законаў прыроды, заклікае яшчэ раз успомніць пра экалагічную небяспеку, якая падсцерагае ў свеце высокіх тэхналогій.

Творы майстра знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага рускага мастацтва ў Нью-Ёрку, прыватных калекцыях Расіі, Германіі, Польшчы, Бельгіі, Нарвегіі, Францыі і Турцыі.

Экспазіцыя працуе да 11 студзеня.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Думка і матэрыя

**Вышыўка, шаўкаграфія і калаж, дыгітальны друк, качанне з воўны і аплікацыя… Адразу дзве выстаўкі эксперыментальнага тэкстылю Латвіі адкрыліся ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў: «Вібрацыі матэрыялаў» і «Канцэнтраваныя думкі». Разнастайнасць класічных тэхнік перамяжоўваецца ў экспазіцыі з багаццем нетрадыцыйных матэрыялаў.**



*Мая Зачэстэ «Вулкан».*

Аўтары бяруць у рукі то металічны дрот, паперу і сінтэтычную тканіну, то воск, пластык і дрэва. Трапляецца шмат прамых ліній і кантрастаў, а экзістэнцыялізм, здаецца, выступае галоўным метадам спасціжэння рэчаіснасці. Мы бачым шмат архетыпічных матываў, бязважкіх фактур, чорна-белых спалучэнняў. Перад вачыма — «Вулкан» з пробак ад віна, «Лясныя пісанні» з лёну ці «Ружовы сон» з воўны. Тонкія белыя ніткі, што звісаюць са столі, успрымаюцца як сімвал крохкай магутнасці, а драўляная скрынка, дзе праз шкло бачны маленькія лялькі з тканіны, адлюстроўвае замкнёных у прасторы (ці сваіх думках?) людзей.



*Ілзэ Гаіланэ «Чатыры».*

«Тэкстыль, як і мова, яскрава характарызуе нацыю, выяўляе яе каштоўнасці, досвед і светаадчуванне. Латвійскія мастакі па тэкстылі распавядаюць свае гісторыі беларускім гледачам», — зазначыла куратар выставак, прафесар Латвійскай акадэміі мастацтваў, загадчык кафедры мастацтва тэкстылю Іева Круміня.

Па яе словах, мініяцюрны тэкстыль у Еўропе і ЗША як асобны жанр перажыў свой росквіт у 1960 — 70-я гады. Міжнародныя выстаўкі гэтага віду мастацтва рэгулярна праходзяць у Італіі, Венгрыі, Польшчы, Літве, Славакіі, Украіне, Францыі і іншых краінах. Мінскі вернісаж прадоўжыцца да 19 снежня.

Экспазіцыя «Вібрацыі матэрыялаў» уключае працы, створаныя аўтарамі розных пакаленняў: як выпускнікамі, сталымі спецыялістамі, так і студэнтамі першых курсаў Латвійскай акадэміі мастацтваў. «Канцэнтраваныя думкі» — гэта выстаўка мініяцюр, што стваралася на працягу некалькіх гадоў, складаецца з твораў удзельнікаў шматлікіх міжнародных вернісажаў. Творцы звяртаюць увагу як на асабістыя, амаль інтымныя адчуванні, так і на агульначалавечыя праблемы, з'явы прыроды і парадоксы жыцця.

Куратарам выставак з беларускага боку выступіў Міхась Цыбульскі. Праект рэалізуецца пры падтрымцы Пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Выконвае абавязкі галоўнага рэдактара**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 10.12.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1907.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1501 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.